
Прарокі ➔4

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714

Крынскія лётчыкі ➔5



http://niva.iig.pl
redakcja@niva.iig.pl

№ 19 (2921) Год LVII | Беласток, 6 мая 2012 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

Сёлетні другі адкрыты конкурс на рэалізацыю „публічных задач у галіне культуры, мастацтва, аховы культурных здабыткаў і нацыянальнай спадчыны", ладжаны беластоцкай Гарадской управай, быў вырашаны 16 сакавіка. Гэтыя задачы маюць быць здзейснены да канца года, пачынаючы з 1 красавіка. Вырашэнні конкурсу выклікаюць шмат сумненняў. Камісія з шасці чалавек поўнасцю высекла беларускія праекты, вартасныя не толькі нашаму асяроддзю, але і ўсяму Беластоку, якія поўнасцю супадалі з яго стратэгіяй, узбагачвалі культурную прапанову горада і далучаліся да яго прамоцыі. Сталася гэта, галоўным чынам, шляхам падмены крытэрыяў, якая адбылася паміж першым, студзеньскім, і другім, красавіцкім, размеркаваннем датацый, пра якую не ведалі аўтары праектаў. Дадзеныя крытэрыі можна інтэрпрэтаваць усяляк.

# ТАЕМНАЯ ШАСЦІДЗЕСЯТКА

Тэкст і фота
Мацея ХАЛАДОЎСКАГА



Загадчык Бюро культуры беластоцкай Гарадской управы, старшыня конкурснай камісіі **Анна Пецюль**

Спісак мерапрыемстваў і іх арганізатараў, якія праходзяць конкурс, канчаткова адабрае прэзідэнт Беластока. I гэтым разам, у выпадку красавіцкага выпуску, як і ранейшага студзеньскага, Тадэвуш Трускалялскі даў свой адабральны подпіс. Раней гэтыя праекты, у рамках дзейнасці Бюро культуры Гарадской управы, абмяркоўвае камісія з чатырох прадстаўнікоў прэзідэнта і двух асоб з няўрадавых арганізацый.

Загадчык Бюро культуры беластоцкай Гарадской управы, старшыня конкурснай камісіі **Анна Пецюль**:

*— У апошнім конкурсе былі размежаваны катэгоры ацэнак. Асобна ацэньвалі мы праекты датычныя культурнай адукацыі, асобна выданняў, а трэцюю групу склалі ўсе агульныя [крытэрыі датычныя адукацыі і выданняў падменены — М. Х.]. Дагэтуль мы разглядалі заяўкі паводле адзіных крытэрыяў. Такія змены падказвалі члены камісіі з няўрадавых арганізацый. Увялі мы іх, бо гэтыя групы несупастаўляльныя. Напрыклад, немагчыма параўнаць вялікі фестываль з нейкім малым выдавецтвам. На жаль, нізка ацэненых заявак было шмат і гэта ўсе тыя незадаволеныя.*

Падводзячы, на 105 атрыманых заявак, 34 зусім не разглядаліся з прычыны фармальных недастаткаў (падліковыя, прапушчаныя калонкі, несупадзенне каштарысу з апісаннем задачы і т.п.), 39 заявак атрымалі падтрымку камісіі. Між суб'екты, якія падалі заяўкі, размеркавана 715 900 злотаў. З гэтага вынікае, што 39 заявак атрымала менш 60 балаў на 100 магчымых. Менавіта 60 балаў былі тою мяжой, якая адкрывалася на атрыманне з Гарадской управы грошай на заяўленыя да конкурсу мерапрыемствы.

## Крытэрыі пад сябе

Анна Пецюль:

*— Усе прапановы, якія вызначыла камісія, пан прэзідэнт адобрыў. Не было выкрэсліваньня.*

Аднак тут пані загадчык дадала:

*— Спісак заявак быў прадстаўлены пані віцэ-прэзідэнт Рэнаце Пшыгодзкай [ёй падлягае культура — М. Х.] перад конкурсным разглядам. Складана, каб яна сама вырашала, калі ёсць камісія. Не прыгадваю сабе, каб пані віцэ-прэзідэнт нешта падказвала. Прытым загадчыкі ўсіх дэпартаментаў Гарадской управы падчас адной з сустрэч з панам прэзідэнтам запамяталі яго словы, што маем крызіс і на ўсе грошы трэба дзесяць разоў прыглянуцца. Часам, напрыклад, некаторыя заяўкі дубляваліся і няма вялікай страты, калі яны сёлета не здзейсняцца. Да таго ж аб'ём усіх датацый у сёлетнім конкурсе нічым не розніцца ад ранейшага, а нават ён буйнейшы.*

Частка крытэрыяў ацэнкі заявак вынікае — як гаварыла спадарыня Пецюль — з закону пра публічны пажытак у выглядзе з 2010 года. Паколькі законныя крытэрыі даволі выразныя, канкрэтныя і празрыстыя (яны кранаюць галоўным чынам фармальных пытанняў), то тыя, што былі апрацаваны ў Гарадской управе, маюць вельмі агульны характар і — як гэта гаворыцца — у той мяшок можна ўкінуць усё. Усё залежыць ад пункту гледжання членаў камісіі.

Анна Пецюль:

*— Мы дадалі ад сябе крытэрыі, датычныя згоднасці са стратэгіяй, значыць атракцыйнасцю мерапрыемства для горада і гэтыя патрабаванні адлюстраваны баламі, і вынікаюць з гадавой праграмы супрацоўніцтва з няўрадавымі арганізацыямі.*

Датацыі не атрымала Беларускае грамадска-культурнае таварыства на „Дапаўненне фондаў бібліятэкі БГТ" (хадайнічала за... 2 тысячы злотаў). Камісія прызначыла гэтаму праекту ледзь 34 балы. За „атракцыйнасць мерапрыемства ў аспекце ўплыву на ўзбуйненне культурнай прапановы горада" — 0, „сугучнасць праекта са стратэгіяй развіцця горада" — 2, а за „значэнне задачы для прамоцыі горада" — 1. У гэтым месцы трэба дадаць, што фондамі ўсё папаўнянай бібліятэкі карыстаюцца людзі не толькі з Беластока і рэгіёна, але з усёй краіны і замежжа. Гэта не толькі навукоўцы ці студэнты. Гэтая бібліятэка маланкава здабывае навейшыя пазіцыі, якія паказваюцца на беларускім выдавецкім рынку.

Загадчык Бюро культуры:

*— Фонды гэтай бібліятэкі не падыходзяць ні ў катэгорыю „выданні", ні „адукацыйныя праграмы", толькі ў „агульную". Камісія не ўцяміла, як пакупка чарговых кніжак мела б паўплываць на культурную прапанову горада. Таму тут нуль, бо маецца на ўвазе агульнадаступная жыхарам горада прапанова.*

У конкурсных запісках, якія апынуліся ў гарадской дакументацыі, можна прачытаць пра адхіленне заяўкі БГТ: „Якія гэта кніжкі? Якія гэта выданні? Паводле якіх прынцыпаў адбываецца купля? Хто карыстаецца бібліятэкай?"

Загадчыца Пецюль:

*— Такія інфармацыі не былі прыведзены. Пасля было напісана, што будзе куплена дваццаць пазіцый, але невядома, ці будуць гэта штогоднікі ці кнігі. Гэта чарговае несупадзенне. Наколькі помню, то ў ранейшых размеркаваннях гэтую бібліятэку мы дафінансоўвалі нейкімі дробнымі квотамі. Цяперашняе рашэнне камісіі вынікае з новых крытэрыяў ацэнкі. Далі мы два балы за „супадзенне праекта са стратэгіяй", бо гэтая пазіцыя падыходзіць нам пад шматкультурнасць, значыць супадае са стратэгіяй.*

— Чаму толькі два балы, а не дзесяць, а за ўплыў на культурную прапанову горада нуль? — дапыталіся мы. працяг ☞8





# Беларускі экстрым

*У Беларусь прылятаюць буслы і вяртаюцца еўрапейскія амбасадары. Ды яшчэ і доўгачаканае цяпло завітала. Здавалася б, добрыя прыкметы вясны. Але не ўсё так бясхмарна насамрэч. Дастаткова ўспомніць пра лідара ўсё той жа „Вясны" Алеся Бяляцкага, які і зараз застаецца ў месцы пазбаўлення волі, і вясновы настрой становіцца ўжо не такі і святочны. Ды і не адзін Бяляцкі там. Але нейкая надзея на іх вызваленне зноў зацяплілася.*

*Спрэчкі, хто выйграў у супрацьстаянні Еўропа-Беларусь увогуле бессэнсоўныя. Якая розніца хто там выйграў, калі беларусам ад таго выйгрышу мала што прыпадае. Трыста год ужо беларусам быць цяжка, і нават небяспечна. А калі ты яшчэ і патрыёт, і займаешся беларускасцю, штосьці для гэтага робіш, то ведай, у твае дзверы час ад часу будуць званіць такія госці, якія, па сцвярджэнню народнай мудрасці, горшыя за татарына.*

*Вось здавалася б так далёка, у Іркуцку, каму там можа падацца небяспечным правядзенне традыцыйнага беларускага Купалля, каму могуць зашкодзіць партрэты лідараў Беларускай Народнай Рэспублікі. Ды вось знайшліся такія. Следчае ўпраўленне Следчага камітэта Расійскай Федэрацыі па Іркуцкай вобласці, а ў дадатак ваяры элітнага расійскага падраздзялення СОБР, ды яшчэ і спецназ у дапамогу ўварваліся ў масках і з аўтаматамі ў кватэру старшыні Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага Алега Рудакова і на сядзібу Таварыства.*

*Уварваліся, правялі ператрусы, канфіскавалі што захацелі. У стандартны набор забранага, канешне, увайшлі і камп'ютары. Усё як у Беларусі. Да беларуса ж уварваліся. Аказваецца, яго падазраюць у — увага!!! — у „беларускім экстрэмізме". Вось так, не больш і не менш. Выходзіць, што беларускасць пагражае ўсёй вялікай Расіі ў цэлым і Іркуцку ў прыватнасці. Бо і Таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага і сам Алег Рудакоў займаліся выключна захаваннем унікальнай культуры беларусаў Прыбайкалля. Працай кажучы, займаліся беларускасцю.*

*І вось тут узнікаюць два цікавыя пытанні. Першае: ці можа ўвогуле існаваць „беларускі экстрэмізм"? Здаецца, на гэтае пытанне ўжо даўно адказалі мысліцелі ўсіх часоў і народаў. У рэпрэсаваных народаў няма экстрэмізму і быць не можа ў прынцыпе, а ёсць толькі законная і цалкам зразумелая прага вызвалення ад прыгнёту, у тым ліку і этнічнага, і культурнага, і зразумелая прага да захавання сваёй тоеснасці, сваёй ідэнтычнасці, да захавання сваіх нацыянальных каштоўнасцей і традыцый. Кожны на свеце народ хоча быць не толькі сытым, але і вечным. А адкуль узяліся першыя беларускія пасяленні там, у Сібіры, мы добра ведаем. З рэпрэсаваных беларусаў.*

*У дачыненні да беларусаў быў экстрэмізм. А з іх боку не. То адкуль жа ён узяўся цяпер? Нават калі нехта (зайважце, не Алег Рудакоў) па дурноце зрабіў ці сказаў нешта падобнае на экстрэмізм, то гэта толькі так і расцаніць можна было б — як дурноту. Але паставіць пытанне як „беларускі экстрэмізм" гэта поўны абсурд. Або наймысная рэч, або поўная зачыстка і знішчэнне беларускага нацыянальнага патрыятызму, беларускіх нацыянальных каштоўнасцей, беларускай мовы і традыцый. Тады гэта становіцца зразумелым і цалкам адпавядае ўсёй дактрыне асіміляцыі беларусаў, якая за трыста год так і не змянілася. Мяняліся расійскія рэжымы, і нават назва самой Расіі, а дактрына асіміляцыі беларусаў застаецца той жа.*

*І другое пытанне. А дзе Беларусь? Чаму не чуваць голасу нашай дзяржавы? Паспрабавалі б так абысціся з немцам ці французам. Думаю, амбасадары гэтых краін ужо сказалі б сваё гучнае слова. А спадар Алег Рудакоў неаднаразова быў ушанаваны нашай краінай. Ён з'яўляецца сябрам Кансультатыўнага савета па справах беларусаў замежжа пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь. А ў 2010 годзе Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь за асабісты ўклад у захаванне традыцый беларускай культуры быў узнагароджаны медалём Францыска Скарыны.*

*Пакуль на гэтыя пытанні адказу няма. Толькі адно можна сцвярджаць напэўна — беларусы ўсяго свету будуць салідарныя са сваім земляком і з усімі беларусамі Прыбайкалля.*

**Віктар САЗОНАЎ**



# Ахвярапрынашэнне караедаў

*Сцвярджэнне, што палякі ў Рэчы Паспалітай з'яўляюцца большасцю яе грамадзян, гэта труізм. Хаця б, калі б не прадстаўнікі нацыянальных меншасцей, што шматліка пражываюць на яе тэрыторыі, можна было б сказаць, што Польшча сапраўды з'яўляецца аднароднай па нацыянальнай прыкмеце краінай. На жаль, у Еўропе, зміксаванай міграцыямі насельніцтва за хлебам, войнамі і палітычнай калькуляцыяй, няма такой краіны. Іншая справа, што якраз аб такой этнічна празрыстай айчыне мараць гэтак званыя палякі... сапраўдныя. Адрозніваюцца яны гэтым ад іншых палякаў, што рацыя заўсёды за імі. Таму не маюць рацыі тыя, хто думае інакш чым яны, інакш інтэрпрэтуе рэчаіснасць, прапаведуе іншы светапогляд, ці кіруецца іншымі палітычнымі сімпатыямі. Як паляк, я не ў змозе, аднак, вызначыць, хто гэта такі паляк... сапраўдны. Можа ім быць як прыхільнік ПіС, ЛПР, ГП, так і лявіцы. Можа ім быць так каталік, як і праваслаўны ці іегавіст. Прызнаюся, што я ў гэтым усім разгубіўся. Таму абапіраюся на канстытуцыю і яе непарушныя правілы. Дзякуючы гэтаму яшчэ ведаю, што я — грамадзянін Польскай Рэчы Паспалітай. Адно, што штораз больш трывожуся за высокую кандыцыю маёй канстытуцыі.*

*Паводле польскай канстытуцыі кожны, — падкрэсліваю, — кожны польскі грамадзянін мае права на раўнапраўнае трактаванне. Быццам бы гэтак і ёсць, але быццам бы. Канстытуцыя кожнай краіны з'яўляецца настолькі яе найбольш сутнасным юрыдычным актам, наколькі яе грамадзяне выяўляюць адносна яе адпаведную павагу і паслухмянасць. Гаворым тут аб прынцыпе сіметрычнасці. Калі грамадзянін не прызнае запісаў канстытуцыі, выключаецца гэтым самым з грамадскай прасторы, якую яна вызначае. Аднак не кожны згодны з гэтым прынцыпам. Тое акрэсленне „не кожны", аднак, пусты эўфемізм. Пад карой нашай палітычнай рэчаіснасці адбываецца сапраўднае ахвярапрынашэнне. Удзельнічаюць у ім разнамасныя караеды, якія з асаблівым апетытам падгрызаюць ядро грамадскага міру: павагу да канстытуцыі. Што цікавае, найбольшая іх канцэнтрацыя выступае ў... польскім Сейме.*

*Вось Парламенцкая група па ахове жыцця і сям'і распрацоўвае законапраект, які мае ўвесці клаўзулу сумлення для фармацэўтаў. Гэты закон дазволіць аптэкарам адмовіць продажу некаторых прадуктаў па этычных матывах. Прыгадаем у чым справа. Вось паводле Згуртавання каталіцкіх фармацэўтаў цяпер аптэкары прымушаны прадаваць медыкаменты, якія знішчаюць чалавечую плоднасць або забіваюць зародышы. Яцэк Жалек, суперкараед, які прадстаўляе Грамадзянскую платформу, віцэ-старшыня групы па ахове жыцця і сям'і лічыць, што дзякуючы гэтаму закону аптэкары змогуць адмовіцца прадаваць, напрыклад, супрацьзачаткавыя сродкі. На яго думку, законапраект падтрымае не толькі яго партыя, але і Права і справядлівасць. Адваротную думку прэзентуе Федэрацыя дзеля жанчын і планавання сям'і. Паводле яе ўсе грамадзяне маюць права на свабодны доступ да сродкаў і метадаў свядомай пракрэацыі. На шчасце да гэтай пазіцыі схіляецца шмат дэпутатаў ГП, СЛД, і нават ПіС.*

*Здавалася б, што справа, аб якой пішу, гэта яшчэ адзін дэпутацкі выпендрош, які загіне натуральнай смерцю як шмат якія заканадаўчыя недапечкі. Ды ў гэты раз — іншая справа. Клаўзула сумлення, узаконеная сеймавай пастановай, быццам бы не зменіць канстытуцыйных запісаў, але зробіць у іх беззваротны пралом. Калі невыразнае, невызначальнае па сваёй натуры сумленне нейкага выпадковага чалавека мае быць канчатковай інстанцыяй заканатворчасці, то саму канстытуцыю можна было б абмежаваць да дзесяці запаведзей. Нашто тыя ўсе прэамбулы, высокія артыкулы, гожыя лозунгі? Уявім сабе, што тая клаўзула сумлення гарантуецца асобнымі законамі таксама для суддзяў, паліцыянтаў, лекараў і г.д. Уявім сабе суддзю, які, кіруючыся клаўзулай сумлення, адмаўляе пакарання гвалтаўніка, паколькі прыватна з'яўляецца прыхільнікам тэзісу, што жанчыны сваімі прываблівымі паводзінамі заахвочваюць мужчын да згвалтавання. Або дэпутата — паляка... сапраўднага, які таму адмаўляе грамадзянскіх правоў іншым грамадзянам, паколькі тыя правы, паводле яго, датычны выключна да грамадзян... сапраўдных. І столькі таго. Або аж столькі. І хопіць, бо яшчэ крышку і трасца мяне возьме!*

**Мірaслаў ГРЫКА**

## Вачыма еўрапейца

# Трапім на рэкламныя шчыты



*Пасля мінулагодніх навальных атак на ксенафобнай глебе на нацыянальныя і рэлігійныя меншасці ў Падляшскім ваяводстве, пры беластоцкай Ваяводскай камендатуры паліцыі, Міністэрстве адміністрацыі і лічбавізацыі (МАіЛ) ды пры Управе падляшскага ваяводы былі створаны спецыяльныя калектывы дзеля паправы бяспекі нацыянальных і этнічных меншасцей. Менавіта пры Управе ваяводы яго ўпаўнаважаны па справах меншасцей Мацей Тэфэльскі, ягоная прэсавая інфарматарка Іаанна Гавел, упаўнаважаная ваяводскага каменданта паліцыі Малгажата Рэдуха, намеснік загадчыка аддзела прэвенцыі Ваяводскай камендатуры паліцыі Дарыюш Кулак ды прадстаўнікі меншасных арганізацый меркавалі не надта даўно пра выгляд грамадска-медыйнай акцыі, якая мае паўплываць на сузіранне меншасцей сужыхарамі Беластока і наваколля ды вучыць іх талерантнасці і адкрытасці. Мацей Тэфэльскі пачаў сустрэчу (яна адбылася ў пачатку лютага, а прадўжалася ў мінулым тыдні) ад высновы, што праект акцыі „патрабуе хуткага тэмпа рэалізацыі". Праблема з тым „хуткім тэмпам" заключаецца ў тым, што на такую шырокамаштабную акцыю няма грошай. Управа ваяводы адпаведным пулам пакуль што не распараджаецца, Падляшская маршалкоўская ўправа на такога роду мерапрыемствы размяркоўвае грошы квартальна, значыць адпаведных заявак на бягучы квартал ужо немагчыма ўнесці; чарговы квартал пачынаецца ў ліпені. А ў МАіЛ адпаведныя заяўкі трэба было б падаць да верасня, што яшчэ не гарантуе хуткага атрымання грошай пасля запуску заяўкі, але недзе з канцом года або і ў наступным.*

*Мэтай акцыі калектыў дасюль назваў „фармаванне і грунтаванне талерантнасці ды пашаны да нацыянальных, этнічных і рэлігійных меншасцей". На маю думку, як у ходзе пасяджэння слушна заўважыў Ян Адамовіч, прадстаўнік татарскай меншасці, — гэта занадта вузкае акрэсленне. Удзельнікі сустрэчы пагадзіліся, што мэты трэба назваць больш дэталёва. Дарыюш Кулак — таксама паводле мяне слушна — запрапанаваў, каб узбуйніць г.зв. мэтавую групу акцыі малодшымі, дзецьмі з дзесятага года жыцця, значыць чатырох- і пятакласнікамі пачатковых школ, якія, як ён гаварыў, яшчэ не сапсаваныя і падатлівыя фармаванню. Мяркую, што з прапановы Дарыюша Кулака выходзіць выснова, што са старэйшай моладдзю, а ўжо асабліва з дарослымі, калектыву будзе складана спраўляцца з тым фармаваннем, нават з дапамогай такіх планаваных сродкаў як інтэрнэт, івенты, тэле- і радыёролікі ці рэкламныя шчыты. Асабліва складана мне ўявіць навучанне талерантнасці да меншасцей на білбордах. Ужо сабе ўяўляю, як з агромных палотнішчаў па беластоцкіх вуліцах спазірае на мяне „Rusek" ці „Tatarzyna", з ходам часу пэўна абліты фарбай ці пакрыты лозунгам „Polska dla Polaków!" Ну, мо я і перабольшваю і вынаходнікі прымянення білбордаў абмяжуюцца адно да сімвалічнага перакazu, выпуску, напрыклад, нейкага графічнага сімвала, ці, як гэта запрапанавала ў ходзе сустрэчы Іаанна Гавел, да лозунгаў (на лозунг і лагатып акцыі мае быць аб'яўлены конкурс, магчыма яшчэ да завяршэння навучальнага года). Сама яна запрапанавала для абмеркавання лозунг: „Podlasie. Lubię nas". Цікава, што Вы, шаноўныя Чытачы, мяркуеце пра гэтакую задуму спадарыні Гавел? Бо мне хапіла б не прыхільнасць, але талерантнасць. Аднак не ў сэнсе „а няхай яны (меншасці) там сабе жывуць", не ў спагадлівым сэнсе фільмавага забойцы, які з-за сціснутых зубоў і з крывавым пробліскам у вачах „ласкава" гаворыць да нядзейснай ахвяры: „Жыві!".*

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# Новая школа, новыя дырэктары

З верасня мінулага года ў Нарве пачаў дзейнічаць Школьна-прадшкольны комплекс, у якога састаў уваходзяць раней асобныя Гімназія імя архіепіскапа, дывізійнага генерала Мірана Хадакоўскага і Падставовая школа імя генерала Зыгмунта Берлінга, разам з Самаўрадавым прадшколлем, якое раней існавала пры падставовай школе. З пачатку верасня 2011 г. на пасаду дырэктара нарваўскай школы быў назначаны настаўнік фізкультуры Юры Астапчук, а яго новым намеснікам стаў настаўнік беларускай мовы Ігар Лукашук. Другім віцэ-дырэктарам школы стала Аліна Асташэўская, былая дырэктар Падставовай школы ў Нарве. Зараз беларускай мове вучаць Ніна Абрамюк і Ігар Лукашук.



Дырэктар Юры Астапчук (злева) і віцэ-дырэктар Ігар Лукашук

— Я прыступіў да конкурсу на дырэктара школы з прапанованымі развіцця школы з падтрымкай культурнай, нацыянальнай і рэлігійнай тоеснасці мясцовага грамадства і ў супрацоўніцтве з ім. Ставім мы на павышэнне ўзроўню навучання і выкарыстоўванне еўрасаюзных сродкаў для адукацыйных патрэб. Дзеля гэтага рэалізуем адукацыйныя праекты, якія падтрымліваюцца вонкавымі сродкамі. Хочам, каб нашыя вучні зразумелі, што яны паўнапраўныя грамадзяне Еўропы, — сказаў дырэктар Юры Астапчук. — Напрыклад, рэалізуем цікавы праект „Comenius", спалучаны з прамоцыяй англійскай мовы. У рамках яго прымалі мы замежных гасцей, настаўнікі былі ў Нямеччыне, вучні і настаўнікі выязджалі ў кастрычніку мінулага года ў Іспанію, а ў маі паедуць у Італію.

У Школьна-прадшкольным комплексе ў Нарве рэалізуюцца таксама адукацыйныя праекты з ухілам на дзяцей, што адстаюць у навуцы, і з улікам здольных вучняў. Зараз у гімназіі і падставовай школе разам з дзеткамі з нулявога класа вучацца 292 асобы, а 58 дзетак займаецца ў самаўрадавым прадшколлі. 78 вучняў з падставовай школы, пачынаючы з першага класа і 28 гімназістаў вучацца беларускай мове.

— Я на занятках беларускай мовы асаблівую ўвагу звяртаю на сучасную беларускую культуру і на гісторыю Беларусі, зразумела, рэалізуючы праграму навучання, дзе звяртаецца таксама ўвагу на нашыя традыцыі. Напрыклад, на падставе песень гімназісты вучацца нашай гісторыі і гэта адбываецца ў цікавай форме. Стараюся, каб вучні не атаясамлівалі беларускасць з сялянствам і традыцыямі, каб знаёміліся з сучаснымі праявамі беларускай культуры і з беларускай гісторыяй. На падставе гэтага моладзь можа рабіць свабодны выбар у справе нацыянальнага самавызначэння. Беларуская мова гэта інструмент да знаёмства з беларускай культурай і гісторыяй, а самое навучанне беларускай мове толькі для самой мовы гэта пустая праца. Затое лепшае веданне беларускай культуры і гісторыі павінна быць штуршком да больш інтэнсіўнай вучобы беларускай мове. Дзеянні нашыя ідуць таксама ў напрамку павелічэння колькасці вучняў, якія ходзяць на заняткі беларускай мовы і дзеля гэтага арганізуем ім, між іншым, многа экскурсій. Плануем выезд у Беласток і наведанне, між іншым, рэдакцыі „Нівы". Варта з выкарыстаннем экскурсій і іншых цікавых форм навучання заахвочваць іншых вучняў хадзіць на заняткі беларускай мовы таксама і таму, што за большай колькасцю навучэнцаў беларускай мовы ідзе большая датацыя з Міністэрства адукацыі для нашай школы, — гаварыў віцэ-дырэктар Ігар Лукашук. — Цешыць нас, што ад верасня 2013 г. у пятым класе падставовай школы і ў другім класе гімназіі павінен паявіцца новы пазапланавы прадмет „Уласная гісторыя і культура", якому будзе можна навучаць у школах, дзе вучацца прадстаўнікі нацыянальных меншасцей.

— Калі я пачала вучыць беларускай мове ў Нарве ў пачатку дзевяностых гадоў, на заняткі хадзіла тады звыш сарака дзетак. Пасля некалькігадовых маіх намаганняў, актыўнай працы з вучнямі на ўроках і ў час пазаўрочных заняткаў, колькасць навучэнцаў беларускай мовы стала павялічвацца і дасягнула ліку 130. Аднак калі колькасць вучняў стала скарачацца, паменшала крыху і колькасць навучэнцаў беларускай мовы, — сказала настаўніца беларускай мовы Ніна Абрамюк.

Настаўніцу спаткаў я на ўроку беларускай мовы ў першым класе падставовай школы. Дзеткі якраз знаёміліся з назвамі кветак, рабілі кветкі на паперы з выкарыстаннем выцінанак.

— Нам найбольш падабаецца, калі мы гуляем у мядзведзя, у коціка, займаемся ў гімнастычнай зале або спяваем песні, — гаварылі першакласнікі. Расказалі, што былі ў музеі ў Скарышэве, дзе знаёміліся з назвамі экспанатаў і раслінкасці па-беларуску. З пастаноўкай „Перад Юр'ем", у якой выступаюць таксама першакласнікі, прынялі ўдзел у аглядзе „Абрад на сцэне" ў Гайнаўскім і Бельскім дамах культуры, выступілі таксама ў Махнатым. Збіраюцца выступіць у Непублічнай школе імя св. св. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, з якой будуць супрацоўнічаць. Раней супрацоўнічалі з вучнямі з Гарадка. Зараз у першым класе на заняткі беларускай мовы ходзіць 13 вучняў (не ўсе былі прысутныя на ўроку), што састаўляе дакладна палову ад агульнага ліку ўсіх вучняў двух першых класаў.

— У Нарве трэба вельмі моцна напрацаваацца, каб заахвоціць бацькоў пасылаць дзетак на ўрокі беларускай мовы і каб вучні мелі ахвоту прадаўжаць гэтую адукацыю. Калі вучні і бацькі бачаць рэзультаты працы па беларускай мове, тады ёсць зацікаўленне нашым прадметам, — гаварыла Ніна Абрамюк.



Навучэнцы беларускай мовы з першага класа з настаўніцай Нінай Абрамюк

Штогод вучні з першага па чацвёрты клас падставовай школы ў канцы школьнага года ў рамках мерапрыемства „Традыцыя нястрачаная" паказваюць перад бацькамі тое, чаму навучыліся на працягу года на занятках беларускай мовы, выступаюць з кароткімі сцэнкамі, вершыкамі, загадкамі. Важна, каб бацькі бачылі рэзультат вучобы іх дзяцей на роднай мове. Пасля бацькі рыхтуюць салодкі стол. Дзеткі з першага класа падставовай школы ў Нарве ў час розных гульняў знаёмяцца з беларускай лексікай, а з другога класа пачынаюць знаёміцца з беларускімі літарамі, вучацца чытаць і пісаць па-беларуску. Ніна Абрамюк вядзе ў школе кружок беларускай мовы, у час якога рыхтуе вучняў да прадметнага конкурсу па беларускай мове, да конкурсу расказчыкаў „Беларуская гавэнда" і вучыць дэкламацыі. Да конкурсаў рыхтуе таксама Ігар Лукашук. Вучні з нарваўскай школы вельмі ахвотныя выступаць з пастаноўкамі на беларускай мове, а апошнім часам плённа супрацоўнічаюць з Цэнтрам адукацыі і прамоцыі беларускай культуры ў Шчытах.

— Штораз менш актуальнымі становяцца падручнікі па беларускай мове. За кароткі перыяд цяжка падрыхтаваць новыя падручнікі на высокім узроўні, чаго патрабуе Міністэрства адукацыі. Я лічу, што ў такім выпадку добра было б выдаваць апрацоўкі правядзення ўрокаў па беларускай мове і рассылаць іх па школах. Калі б гэтыя апрацоўкі станавіліся неактуальнымі, можна было б на іх месца друкаваць новыя, бо калі б мы зараз выдалі новыя падручнікі, яны і так у хуткім часе станавіліся б штораз больш неактуальнымі, — тлумачыў Ігар Лукашук.

Урокі беларускай мовы ў Нарве вядуцца на высокім узроўні. Доказам гэтаму з'яўляецца хаця б колькасць лаўрэатаў прадметных конкурсаў па беларускай мове і пераможцаў у конкурсах — дэкламатарскім і расказчыкаў — на працягу хаця б апошніх гадоў. У гэтым годзе лаўрэатамі прадметнага конкурсу па беларускай мове сталі Агата Беразавец і Агнешка Петручук з падставовай школы. Першыя месцы ў конкурсе расказчыкаў занялі Карнелія Аніта Порац і Крыстыян Паскробка, другое — Агата Беразавец з падставовай школы, а з ліку гімназістаў першае месца занялі Уршуля Беразавец, а другое — Караль Лукша. У час цэнтральных элімінацый конкурсу „Роднае слова" другое месца заняла Магдалена Галёнка з падставовай школы, а трэцяе месца атрымаў Караль Лукша з гімназіі.

Поспехаў нарваўская школа дабіваецца таксама ў спорце. Хлопцы і дзяўчаты з падставовай школы занялі першыя месцы ў Гайнаўскім павеце ў спаборніцтвах па гандболе. Гімназісты занялі першае, а гімназісткі другое месца ў Гайнаўскім павеце таксама ў гандболе. Дзяўчаты з нарваўскай падставовай школы дайшлі да чвэрцьфіналу Кубка Падляшскага ваяводства па гандболе і ў час спаборніцтваў у Дамброве-Беластоцкай занялі трэцяе месца. Патрыцыя Астапкевіч, Ірыней Сямёнчык і Караль Герынк занялі першыя месцы ў Гайнаўскім павеце ў бегу па перасечанай мясцовасці. У агульнапольскім конкурсе ведаў на тэму здаровага стылю жыцця і ў спаборніцтвах па футболе „Ясная школа — простая справа" вучні нарваўскай школы перамаглі ў Падляшскім ваяводстве і будуць змагацца за агульнапольскую перамогу ў Варшаве.

— Арганізавалі мы ў сябе ўжо другі выпуск конкурсу „Каханне ў расійскай паэзіі" і маем намер надалей яго ладзіць, — гаварыў дырэктар Юры Астапчук. Пры школе ўзнікае пляцоўка для гульняў, прадбачваецца будаваць новую пляцоўку для розных спартыўных спаборніцтваў.

## Гісторыі з жыцця. Успаміны сведкаў

Маладыя навукоўцы з Польшчы і Беларусі праводзяць даследаванне пад назвай «Гісторыі з жыцця. Успаміны сведкаў». Яны хочуць захаваць вусныя аповеды сведкаў прымусовай дэпартацыі жыхароў Заходняй Беларусі на Усход падчас падзей 1939-1941 гадоў.

Лёсы беларусаў, палякаў, прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей, якія жылі ў Заходняй Беларусі і падчас падзей 1939-1941 гадоў былі прымусова вывезеныя на Усход, стануць галоўным аб'ектам вывучэння маладых навукоўцаў з Польшчы і Беларусі. Жывыя сведкі тых падзей адыходзяць у лепшы свет, і наша мэта — захаваць іх вусныя аповеды для нашчадкаў.

У выніку даследавання мае паўстаць дакументальны фільм, як жывы напамін аб людзях і падзеях.

**Калі людзі, якія перажылі тыя трагічныя падзеі і могуць пра іх распавесці, жывуць сярод вашых родных, суседзяў, знаёмых, скантактуйцеся з намі да 30 траўня 2012 г. па тэл.: +375 29 5829157, электронная пошта *life.stories.siberia@gmail.com***

Зацікаўленых тэмай даследавання запрашаем да супрацоўніцтва!

Дзякуючы нашым супольным намаганням, захаваем успаміны сведкаў, каб не згубіць важную частку нашай гісторыі.

## Беднаму вецер у вочы

У Чаромсе працуюць два пункты продажы лекаў: аптэчны пункт, які змяшчаецца ў памяшканні былога паравознага дэпо і аптэка, мяжуючая з Гмінным асяродкам здароўя па вуліцы 1 Мая. Абедзве ўстановы спаборнічаюць у прыцягненні кліента. Большай папулярнасцю карыстаўся аптэчны пункт у паравозным дэпо, хоць знаходзіцца ён на акраіне пасёлка. Цэны ў ім больш даступныя, прытым маніла прамоцыя. Ад кожнай сумы трыццацізлатовага рахунку прыпісвалі адзін пункт. Пасля можна было выбраць падарунак ад назначанай колькасці пунктаў. І людзі хлынулі быццам мухі да мёду. Карысць пакупніку была падвойная: за лякарства плацілася менш і можна было атрымаць падарунак. Я сам атрымаў некалькі сувеніраў, такіх як парасон, альбомы для здымкаў, мяч для футбола ды іншыя. З пачаткам года ўсё адмянілася. У аптэчным пункце ліквідавалі прамоцыю. На маё пытанне чаму, аптэкарка адказала: „Рашэннем міністэрства аптэкам забараняецца спаборнічаць паміж сабою". Вось табе, бабка, і Юр'еў дзень! Адным дазваляецца займацца рознага віду ашуканскімі заманкамі, а хвораму чалавеку нельга карыстацца таннейшым лякарствам. Ці гэта справядліва? І яшчэ адна важная дэталь. Як сказала мая субяседніца, кожныя два месяцы мяняюцца спіскі льготных лекаў. Таму не ведаем калі, колькі і за што будзем плаціць. Нездарма кажуць, што беднаму вецер у вочы. Бо гэта і праўда. За бездапаможнымі пенсіянерамі ды інвалідамі некаму заступіцца. Міністр аховы здароўя вядзе перагаворы адно з фармацэўтычнымі карпарацыямі, для якіх лічыцца прыбытак. А пра пенсіянераў ды інвалідаў палітыкі прыпамінаюць толькі ў час выбараў. Ці не варта, даражэнькія, над гэтым задумацца?

**Уладзімір СІДАРУК**

■ Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

# Пракокі: узнаўленне сну

**„У краіне пракокаў" — загаловак выставы фатаграфіі Марка Далецкага, адкрытай у Вялікую пятніцу паводле юліянскага календара, у беластоцкім аддзеле Галерэі імя Сляндзінскіх па вуліцы Легіяновай (былая „Тэлімэна"). Прадстаўлены на ёй партрэты дзесяткаў беларусаў, палякаў і татараў, праваслаўных і католікаў Беласточчыны.**



Марэк Далецкі з самазванцам з Чаромхі

Паказаныя здымкі аўтар рабіў ад 1974 да мінулага года.

— На гэтай выставе ёсць шэраг здымкаў звычайных, простых людзей, якія з сярод сябе раптам сталі лічыць кагосьці аўтарытэтам. Ніхто іх неяк спецыяльна не выбіраў. Гэта была прыгожая арганізацыя вясковай грамады, — гаварыў у час вернісажу аўтар.

Вернісаж па ініцыятыве аўтара выставы пачала хвіліна маўчання, з запісам птушынага спеву, прысвечана нядаўна памерламу беластоцка-супрасльскаму фатографу Віктару Волкаву, маэстра фатаграфіі падляшскай прыроды. Наведваючых вітае надпісаная на сцяне галерэі цытата аўтарства культавага паэта Эдварда Стахуры: *Былі такія, што нараджаліся, / Былі такія , што паміралі, / Былі і такія, якім гэтага было мала*. Вольга Пацэвіч, вядучая галерэю па вуліцы Легіяновай, у якой мы спыталіся, чаму вернісаж выставы адбыўся якраз у Вялікую пятніцу паводле юліянскага календара, адказала:

— Мы думалі хутчэй пра тое, што гэта трынаццатае ў пятніцу. Пракокі гэта людзі асабліва адораныя, крышку звязаныя з магіяй і адчароўваннем злых сілаў, можа і звязаных з ракавой трынаццаткай.

Дадала прытым:

— Марэк мае такую рысу, што людзі перад аб'ектывам становяцца вельмі натуральнымі. Гэта не толькі партрэт. У гэтых здымках ёсць штосьці магічнае. Пракокі гэта былі, ёсць людзі, якія запэўніваюць нам кантакт паміж рэчаіснасцю рэальнай і звышрэальнай, сюррэалістычнай. І Марэк на сваіх здымках таксама лучыць гэтыя дзве рэчаіснасці.

Куратар выставы Марыюш Відэрнскі з Факультэта мастацтва медыяў і фатаграфіі Акадэміі мастацтваў у Варшаве, у каталогу да яе напісаў: „У фатаграфіях Марка Далецкага закадзіраваны прыязныя пачуцці, любоў да людзей. Кожная фатаграфія, а асабліва партрэтная, „адкрывае" аўтара, яго стаўленне да свету, спосаб, у які ўспрымае іншых — значыць, усе яны ёсць ягонымі аўтапартрэтамі (...). Фотаздымкі ўзнікалі без спешкі, быў час на працяглыя размовы, бліжэйшае азнаямленне. Перш за ўсё ўзнікалі воблікі сапраўдных людзей".

На выставе паказваюцца дзесяткі малых і некалькі большых фатаграфій. Большасці асоб з гэтых партрэтаў няма ўжо ў жывых.

— Мабыць, маю такі дар, але з гэтымі людзьмі я лёгка наладжваў кантакт. Ёсць у мяне яшчэ вялікі збор такіх фатаграфій і не прыгадваю сабе, каб хтосьці з фатаграфаваных мне адмовіў, — прызнаўся „Ніве" ў час вернісажу Марэк Далецкі. — Гэта людзі, якіх я фатаграфаваў дзесяткі гадоў. У кожнай з гэтых асоб — своя гісторыя.

Аўтар паказаў нам адзін са сваіх здымкаў:

— На ім салдат Чырвонай Арміі, якога прызвалі ў яе толькі таму, што ён праваслаўны, а прабываў на прымусовых работах ва Усходняй Прусіі. Увайшлі расіяне і сказалі, што быў ён нямецкім паслугачом. Кончыў ён баявы шлях пад Кёнігсбергам.

Аб іншых расказваў:

— Гэта чалавек, якога няма ўжо ў жывых, з Чаромхі, якому было замала ўласнага аўтарытэту і незаконна апранаў духоўнае аблачэнне, чаго духавенства не пераносіла і, каб адчапіліся ад яго, браў латок на ахвяраванні і збіраў іх перад царквой у Седльцах. Падобна, як і з персонай з іншых здымкаў, не памятаю ўжо яго прозвішча [М. Далецкі паказвае барадатага мужчыну — М. Х.] — гэта Ян Басаногі. Гэты здымак я рабіў у Беластоку зімой у сямідзесятых гадах. Я ўбачыў яго, як стаяў ён босы на аўтобусным прыпынку. Увесь год ён хадзіў басанож. Наколькі ведаю, у яго са здароўем цяпер горш. Бываў ён на ўсіх касцельных і царкоўных урачыстасцях, на фэстах. Паўтараў мне ўвесь час, калі будзе канец свету, а мае гэта стацца тады, казаў, калі рымскім папам стане негр. А вось гэтая пані, Вера — шаптуха-лекарка з Істока непадалёк Кленік. Гэты спадар — са Збуча. А гэта — Павел Валошын, адзін з прыхільнікаў пракока Ільі, вялікая постаць у свеце тэхнікі. Я прабаваў вынайдзенымі ім машынамі зацікавіць адзін з музеяў тэхнікі, ды спадар Павел Валошын памёр, а сын ягоныя машыны аддаў на звалку.

Марэк Далецкі не скрываў:

— Я прыехаў на Беласточчыну як — як гэта кажуць — навалач (аўтар выставы нарадзіўся ў першай палове XX стагоддзя ў Млаве — М. Х.) і захапіўся праваслаўем, гэтай згоднасцю з порамі года, трываннем у праваслаўі, якое бывала нявыгадным, а час ад часу і сарамлівым. Трапіў сюды, калі на Беласточчыне вёска пачала абязлюджвацца. Гэта вёска ўжо ад пяцідзесяцях гадоў стала адмірацы. Праваслаўе ёсць тым, што склікае гэтых людзей так, як на Пасху, калі ў вёску з'язджаюцца сем'і з усёй Польшчы.

Адзначыў:

— Кожная вёска была такой малой айчынай, якая мела сваю іерархію, свае абычаі, усё ведала аб сабе. А мы сёння — што? Мы ананімныя! У гэтай іерархіі былі аздаравіцелі, людзі, якія малітвай адмянялі ўсё тое зло.

Прысутны на выставе намеснік прэзідэнта Беластока Аляксандр Сасна дзяліўся з намі сваімі ўражаннямі:

— Некаторыя асобы з гэтых здымкаў я памятаю, як напрыклад, гэтага юродзівага з Бельска, якога яшчэ сёння можам сустрэць у Беластоку, хадзіўшага басанож. Кажуць, у яго вышэйшая адукацыя. Кажуць, кончыў ён матэматыку ў Ленінградзе. Іншая ўражлівасць, калі бачым здымкі месцаў і людзей, якіх памятаем. Успрымаю іх душой, так як адзін са здымкаў, які прыгадаў мне, як дома бабуля пляла каробкі. Трэба адзначыць, што Марэк Далецкі прыехаў сюды звонку і ўкараніўся ў гэтую зямлю і патрапіў паказаць тое, што тут найбольш каштоўнае. Чакаем, каб пабачыць альбом з гэтымі здымкамі.

Марэк Далецкі кажа, што інспіравалі яго думкі прафесара Уладзіміра Паўлючука, фільмы дакументалісткі Тэлебачання Беласток Бэаты Гыжы-Чалпінскай і супрасльскі тэатр „Вершалін" Пятра Тамашука. Прысутны на вернісажы прафесар Паўлючук сказаў нам:

— Гэтая выстава — візуальнае ўзнаўленне сну, сну старых людзей, які для маладых — казка. Гэтую рэчаіснасць варта перанесці ў будучыню і тое робіць аўтар гэтых здымкаў.

Выстава будзе працягвацца да 13 мая. Неўзабаве спадарожнічаць будзе ёй паказ фільма Бэаты Гыжы-Чалпінскай, прысвечаны пракоку Ільі Клімовічу.

# Крынскія лётчыкі

Іаанна ЧАБАН

Шукаючы інфармацый пра гісторыю сваёй, крынскай хаты я даведалася, што ў час Другой сусветнай вайны жыў тут, між іншым, чырвонаармейскі афіцэр, лётчык. Доўга я думала чаму акурат лётчык, а не, для прыкладу, танкіст. Таксама цікавілі мяне лёсы нядаўна памерлага самотнага мужчыны і яго маці. Яны пакінулі мне шмат сямейных памятак. Нядаўна я выпадкова даведалася пра Крынска-Рахавіцкі ваенны аэрадром, гісторыя якога раскрыла мне ўсе гэтыя таямніцы.



Фядотаў Г. Г. — салдат, які кватараваўся ў Крынках па вул. Гродзенскай

Ваенны час добра памятае Марыя Касацкая, з дому Чыжэўская, 1927 года нараджэння. Яна згадзілася спаткацца са мною, каб паўспамінаць колішняе.

— Тут, у Рахавіку, — кажа спадарыня Марыя, ураджэнка Паўднёвага Вострава, — у 1940 годзе на нашых палетках саветы зрабілі аэрадром. Лётчыкі кватараваліся па ўсіх хатах Вострава, Рахавіка і Крынак. О, Езу, колькі іх тут было, і самалётаў, і лётчыкаў. Тут яны зямлянкі пакапалі, усё наша і маёнткавае занялі. Жылі амаль у кожнай крынкаўскай, рахавіцкай і востраўскай хаце. Помню, у аднаго майго дзеда і яго суседа быў такі вялікі пругамень і там тыя лётчыкі сталаваліся. Кожны дзень прыходзілі з Рахавіка і ўжэ там павячэраюць, а тады спяваюць, аж вёска разліваецца. Крынскія кватаранты сталаваліся ў мясцовым шпіталі. Іх тут тысяча была ўсякіх рангам кавалераў, жанатых, траплялiся нават і жанчыны-лётчыцы. Большасць часу яны праводзілі на вайсковых справах. З самой раніцы, чуць свет, ішлі да Рахавіка, дзе стаялі ўсе самалёты. Прыйдуць, выспяцца і зноў да Рахавіка ідуць. Не мелі яны калі з кім і што. От, з мужчынамі трохі пасядзяць, парасказваюць як у іх людзі жывуць. А так не мелі ніякіх кантактаў, бо ім не было калі. У кожную нядзелю мы з вясковымі хлопцамі хадзілі да іх на кіно, якое дэманстравалі ў рахавіцкай стадоле. Паказвалі як немец у Расію ўвайшоў, што ён там рабіў, як партызаны яго ганялі. Папраўдзе, кіно паказвалі кожны дзень, але там толькі ў нядзелю маладыя хлопцы і дзяўчаты хадзілі. Будзённымі днямі не было калі хадзіць, бо работа была. Аэрадром летам зрабілі, у час жніва. Нашы палоскі якраз каля аэрадрома былі, то мы кожны дзень там хадзілі. То жалі, то авёс абраблялі, то яшчэ чым іншым займаліся. Лётчыкі пасябравалі з адным чалавекам з нашай вёскі, па чатырох да яго па нядзелях хадзілі. Ён запрагаў ім каня і вазіў на раку Слою рыбу лавіць. Наловяць рыбы (а тады людзі сталі самагонку гнаць), прыедуць, гаспадыня рыбы насмажыць, а яны вып'юць, паспяваюць на цэлую вёску і зноў назад, да Рахавіка.

Тут усе дзяўчаты, а нават бабы за лётчыкамі бегалі, некаторыя і замуж не пайшлі. Так улюбіліся, што за іншых увогуле не хацелі выходзіць. Лётчыкі павыязджалі і пакінулі дзяўчат. Як каторая асталася адна, то добра, але бывала і з дзяцьмі пакідалі. І так асталіся самымя, хоць некаторым удалося неяк потым знайсці сабе мужыкоў. Гэты Коля Федараў, што памёр, помню, ён рыхтык бацька. Кавалер на цэлую вёску, толькі бацька чуць вышэйшы быў. Коля жыў у нас у Востраве, яго ўзялі на выхаванне людзі, якіх сына забралі на вайну, потым у няволю папаў, а нявестка асталася з трыма дочкамі. Бацька і маці зняволенага былі ўжо старыя, гаспадаркі не было каму абрабляць, патрабавалі памочніка. Колю ўзялі зімою. Ала, ягоная маці, прыгожая дзяўчына была, вельмі любіла салдат. Тут, дзе жыве Пратасэвічаў Славак, некалькі салдацкіх кватарантаў жыло. Яна кожную нядзелю туды хадзіла, каб цераз плот з імі пагаварыць. Там, між іншым, жыў адзін казак, красунчык. Ён насіў шапку з чырвоным акольшкам, і меў штаны з чырвонымі палосамі. Ала заўсёды да яго лётала, усё прыйдзе і там з ім дудукае. Потым Аліна маці забрала гэтага казака ў сваю хату. Неўзабаве Алушка зацяжарыла. На жаль, ужо ў вялікі пост казака немцы забралі, вывезлі ў Германію. Бедную, цяжарную Алу родны бацька выгнаў на вуліцу. У хаце поўнай дзяцей з дзвюх сужонстваў месца не хапала. Ах, бяры, не разбяры. Яна прыйшла ў Крынкі. Там на Пагулянцы жылі татаркі, якія прынялі цяжарную Алушку на кватэру. Там яна і выхоўвала маленькага Колю, плод любоўі свайго жыцця. Каб пракарміць сябе і сынка, прала людзям кудзелю, потым стала выдатнай краўчыхай на ўсе Крынкі, рукадзельніцай. Коля, падрастаючы, штораз больш напамінаў свайго бацьку-казака.



На память!
Юлию Михайловичу
Любови Викентьевне
и деткам
Тани, Мишу
от
Федотова Г. Г.
Вспоминайте
того, кто жил у вас
на квартире в 1944 г.

На адвароце здымка: „На память Юлию Михайловичу, Любови Викентьевне и деткам Тани и Мишу от Федотова Г. Г. Вспоминайте того, кто жил у вас на квартире в 1944 г."

Мне казала Люба Толіка Скроўбавага, якую саветы заспелі ў нямецкім палоне ў Германіі і потым забралі з сабой, што ў Расеі яна быццам спаткала Алінчынага казака. Паводле яе аповедаў, казак аказаўся здраднікам, перайшоў на нямецкую старану. Коля быў рыхтык бацька, таму ўсе яго казаком называлі. Ала да канца сваіх дзён моцна любіла Колю і яго бацьку.

Некаторым востраўскім дзяўчатам больш пашанцавала ў плане прадаўжэння любоўных раманаў са славутымі лётчыкамі-казакамі. Пару з іх нават пад вянец пайшло. Майго хрышчонага бацькі жончынай сястры дачка выйшла замуж і паехала з мужыком у Расею.

Тады ж паненкі шалелі за салдатамі, нават спецыяльныя песні пра іх складалі: „Мама, я лётчыка люблю, лётчык высако лятае, мала дзенег палучае, ой за што я лётчыка люблю".

*Некаторыя імёны і прозвішчы герояў зменены.*

## Выстава

4 красавіка 2012 г. у Культурным цэнтры Беларусі ў Варшаве адбылося адкрыццё выставы, прымеркаванай да 120-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча, вялікага беларускага паэта, пісьменніка, гісторыка, літаратуразнаўцы, перакладчыка твораў Гарацыя, Гейне, Шылера, Верлена.

Максім Багдановіч нарадзіўся 9 снежня 1891 г. у Менску, ў сям'і этнографа Адама Багдановіча. У 1892-1896 гадах сям'я Багдановічаў жыла ў Гродне (у 1982 годзе ў доме ў Гродне, дзе паэт жыў у дзяцінстве, быў адкрыты музей). Сям'я паэта ў 1896 годзе выехала „за хлебам" у глыбіню Расіі, у Ніжні Ноўгарад (горад у вусці ракі Акі ў раку Волгу).

Максім Багдановіч пачаў пісаць вершы на беларускай мове ва ўзросце 10 гадоў. Не хадзіў ён у беларускую школу (не было тады такіх, не было беларускай дзяржавы), але беларуская мова ў сям'і, беларуская хатняя адукацыя і самаадукацыя па гісторыі і літаратуры Беларусі зрабілі яго паэтам, пісьменнікам — патрыётам беларускага народа. Ён з'яўляецца аўтарам аднаго з неафіцыйных патрыятычных гімнаў беларускага народа — „Пагоня" („Толькі ў сэрцы трывожным пачую за краіну радзімую жах ..."). Яго творы былі публікаваны, між іншым, у легендарнай беларускай „Нашай ніве", выдаванай у Вільні. Пры жыцці паэта ў 1913 годзе ў Вільні выйшаў адзіны том яго вершаў — „Вянок". Максім Багдановіч памёр ад сухотаў у Ялце ў 1917 годзе, ва ўзросце ўсяго 26 гадоў.

1991 год ЮНЕСКА аб'явіла Годам Максіма Багдановіча.

На адкрыцці выстаўкі ў Культурным цэнтры Рэспублікі Беларусь прысутных прывітаў яго дырэктар Аляксандр Карачун. Пра Максіма Багдановіча, яго працу, творы, жыццёвы шлях, аб музеі яго творчасці ў Менску, аб важнасці культурнага супрацоўніцтва паміж народамі гаварылі Андрэй Лазавік — часовы паверaны Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Польшча, Таццяна Шэлятовіч — дырэктар Літаратурнага музея Максіма Багдановіча ў Менску, Уладзімір Гілеп — старшыня Беларускага фонду культуры, Анатоль Бутэвіч — беларускі пісьменнік, журналіст і прэзідэнт Асацыяцыі Беларусь-Польшча. Яны ўсе гаварылі на прыгожай, сакавітай беларускай мове.

У сустрэчы прынялі ўдзел, між іншым, Аляксандра Пянткоўская — дырэктар Дэпартамента публічнай і культурнай дыпламатыі Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Польшча, прадстаўнік украінскага пасольства ў Польшчы, Язэп Брыль — прэзідэнт Асацыяцыі Польшча-Усход, Ежы Буткевіч — прэзідэнт Асацыяцыі нясвіжан і сяброў 27 палка уланаў, Уладзіслаў Краўчук — прэзідэнт Асацыяцыі браслаўлян, Ежы Вайцяхоўскі — прэзідэнт Клуба паланійных публіцыстаў, прадстаўнік праваслаўнага духавенства, праф. Варшаўскага ўніверсітэта Аляксандр Баршчэўскі (паэт Алесь Барскі, родам з Бандароў, што ў Міхалоўскай гміне), польскія беларусы з Варшаўскага аддзела Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы, студэнты, а таксама журналісты тэлебачання, радыёвяшчання і прэсы.

На заканчэнне сустрэчы адбылася прэзентацыя калекцыі, прывезенай з Літаратурнага музея Максіма Багдановіча ў Менску. Калекцыю на прыгожай беларускай мове, у вельмі цікавы спосаб і з дэкламацыяй твораў Максіма Багдановіча прадставіла Людміла Сасонка — працаўніца музея.

**Георгі ЗЮЗЯ**
**з Рудні, што ў Міхалоўскай гміне**



зорка
для дзяцей і моладзі
Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

# Сяброўства — значыць дапамагаць іншым!

Да сяброў з шостага „а” класа завіталі мы ў трэці дзень праверачных экзаменаў у гімназіі. У парку, каля будынка школы, выстойвалі хлопцы ў касцюмах. Яны дамаўляліся на сустрэчу пасля экзаменаў, на прыродзе. Да гэтага заахвочвала сонечнае надвор'е і стрэс, выкліканы абавязкамі...

— А мы ўжо прайшлі ўсе экзамены, — кажуць у шостым „а”. З верасня, усе як адзін муж, пойдуць у гімназію, што ў Комплексе школ з дадатковай мовай навучання імя Яраслава Кастыцэвіча.

— Значыць, усё астанецца як было?

— Не зусім, — кажуць у класе. — Нас размяркуюць па розных класах...

Апошняя справа не дае спакою. Як кажуць у народзе: і хочацца, і колецца! Пайсці ў новы клас — новы досвед і новы выклік. Але пакінуць старых сяброў звычайна жаль.

— У гэтым класе як нідзе дружная моладзь, — кажа пра шосты „а” клас настаўніца Валянціна Бабулевіч. — Яны можа не найбольшыя выдатнікі і грамацеі, затое ўсе вельмі адкрытыя на патрэбы іншых сяброў. Калі трэба, яны падтрымліваюць адзін аднаго. У сённяшні час такія адносіны не такія ўжо і паўсюдныя ў школе. Скажу яшчэ, што мне заўсёды хацелася прыходзіць у гэты клас на ўрокі. Яны, што ім не прапануй, заўсёды зацікаўленыя і дзейсныя. Словам, вельмі добрая, уражлівая, сімпатычная моладзь!



Фота Ганны Кандрацюк

Праз момант пачуем як сяброўства і давер спрацавалі ў імпазантны поспех. Вось у шостым „а” класе аж чатыры лаўрэаты і адна фіналістка конкурсу па беларускай мове. Гэта **Юстына Якубюк, Губерт Анішчук, Мартына Янкоўская, Анджаліка Сцепанюк і Наталька Шацілоўская.**

Як аказалася, на поспех паўплывала добрая атмасфера ў класе, ангажаванасць на ўроках, хатняе чытанне „Зоркі” і беларускіх кніжак, сваяцкія размовы па-свойму.... І, вядома, сістэматычнасць.

Наогул прынята, што напрыканцы школьнага года ўсе дзеці павінны падацца на класную экскурсію ў горы або на мора. На практыцы бывае па-рознаму. Карацей, для многіх дзяцей з Бельска такая прыгода як экскурсія не па кішэні. У час сустрэчы мы даведаліся што шосты „а” , каб не абцяжарыць залішне бацькоў, рашыўся не ехаць на экскурсію. З другога боку — такіх дзяцей заўсёды варта падтрымаць.

Можа сярод нашых дарослых чытачоў знойдзецца прыватны спонсар, беларуская арганізацыя ці прадпрыемства, якія дапамогуць выправіць шосты „а” на экскурсію ці вандроўку па бліжэйшым наваколлі?! Такая ўзнагарода паказала б іншым аднагодкам, што поспехі ў прадметным конкурсе па роднай мове важныя і патрэбныя для нашага асяроддзя.

ЗОРКА

# Ад наймалодшых гадоў з „Зоркай”

Нядаўна хацела я падарыць беларускія казкі аднаму беластоцкаму навучэнцу беларускай мовы. Ён, што мяне здзівіла, рукамі і нагамі бараніўся ад такога падарка:

— Бо мне беларуская мова не зразумелая! — паўтараў. А ўжо найбольш палохала яго думка, што дарма атрымае беларускую кніжку!

Хлапец ніколі не трымаў у руках „Зоркі”. Таму вельмі здзівіла яго звестка пра дзяцей і моладзь, якія з наймалодшых гадоў сябруюць з нашым часопісам. Бо як інакш назваць сітуацыю, калі на працягу аднаго года атрымаеш пад пяцьдзесят лістоў ад аднога дзіцяці. Карэспандэнцыі дзяцей — гэта найперш адказы на крыжаванкі і конкурсы.

У час сутрэчы ў шостым „а” класе, што ў бельскай „тройцы”, мы асабіста пазнаёміліся з дзяўчынкамі, якія з трэцяга класа рэгулярна ўдзельнічаюць у конкурсах (каб рашыць тэматычны конкурс, трэба заўсёды прачытаць „Зорку”). Некаторыя з іх, як Патрыцыя Міхальчук, дасылаюць адказы па электроннай пошце. Іншыя, як Анджаліка Сцепанюк, дасылае адказы разам з малодшым братам. Часам у адным лісце прыходзіць пяць-шэсць адказаў ад розных асоб...

Як адчуваюць яны сябе, калі ў чарговых нумарах бачаць свае прозвішчы ў ліку лаўрэатаў?

Адразу весела на сэрцы. І яшчэ вельмі дзіўнае пачуццё, калі выйграюць кніжку, або майку з беларускім лагатыпам. Дзень, калі ў школу прыязджаюць узнагароды, памятаецца доўгія месяцы.



Фота Ганны Кандрацюк

Мы таксама хочам прадставіць нашым чытачам верных чытачоў, якіх большасць з вас ведае са старонак „Зоркі”. Пра іх кажуць у школе: маюць шчасце. На самай справе іх шчасце — гэта сістэматычнасць і жывая цікавасць да беларускага слова.

Стаяць (злева): Віялета Белах, Эльвіра Андрусевіч, Патрыцыя Міхальчук, Мартына Янкоўская, Анджаліка Сцепанюк, Юстына Якубюк.

ЗОРКА

# Конкурс пра вясну (19)

Прывітанне, сябры! У нас працяг тэматычнага конкурсу, звязанага з перыядам вясны. Разам з адказамі, калі ласка, пазначце нумар конкурсу:

**1. У якім класе чатырох лаўрэатаў і адзін фіналіст конкурсу па беларускай мове ў 2011/2012 навучальным годзе?**

а) у шостым „а” ў ПШ № 4 у Беластоку,

б) у шостым класе ПШ у Чыжах,

в) у шостым „а” класе ПШ № 3 у Бельску-Падляшскім.

**2. Ад чаго ўзяў сваю назву этнаграфічны фестываль „Там по маёвуй росі”, які праходзіць у Студзіводах?**

а) ад майскай расы,

б) ад свята Юр'я,

в) ад аднайменай песні з Кожына „Там по маёвуй росі”.

**3. Што абазначае назва моладзевага гурту „Жэмэрва”, які дзейнічае ў Студзіводах?**

а) вясёлую кампанію моладзі,

б) дзяўчат, якія водзяць карагоды,

в) людзей, якія талакой працуюць пры сенаванні.

**4. З якім рэгіёнам у Рэспубліцы Беларусь супрацоўнічаюць арганізатары фестывалю „Там по маёвуй росі”?**

а) з Палессем,

б) з Прыдняпроўем,

в) з Гарадзеншчынай.

Адказы дасылайце да 13 мая 2012 года (найлепш па электроннай пошце на адрас „Зоркі”). Тут разыграем цікавыя ўзнагароды: беларускія кніжкі, CD і гульні.

**Рашэнне конкурсу № 16.**

Найперш з выраю прылятае шпак (а); сімвалам вясны з'яўляецца ластаўка (а); сімвалам Беларусі лічыцца бусел (в); аўтар паэмы „Жу†равель і чапля” — Максім Танк (б). Узнагароды, даведнікі пра ландшафтныя паркі Падляшша (з птушкамі), выйгралі **Марцін Аврэчук** з Арэшкава і **Мартына Іванюк** з Беластока. Віншуем!

Наш спонсар — Сувальскі ландшафтны парк.

ЗОРКА

*(кітайская легенда)*

# Белая вужака

Нашыя бабулі верылі, што каханне — справа лёсу. Пра тое з кім ім сустрэцца і пабрацца шлюбам меў вырашаць адмысловы праект, прыдуманы ў небе. Ад свайго лёсу не ўцячэш, — гаварылі. І верылі, што лёс не сляпы, што добры або ліхі, усё залежыла ад неба.

Аднак лёс магчыма змяніць.

У перамену лёсу свята вераць кітайцы. Хоць — не да канца яно так.

Пра каханне, якое хацела абысці лёс, апавядае выпадак Баі Нянг Зі; па-нашаму: Белай вужакі. У краіне за Вялікай Сцяной заўсёды пакланяліся цмокам і вужакам, народ бачыў у іх сваіх заступнікаў і абаронцаў. Каб наклікаць прыхільнасць цмокаў, людзі прыдумвалі адмысловыя рытуалы, прыносілі ахвяры, славілі іх у легендах, песнях і малюнках. Цмокам нельга было вязацца з людзьмі, і наадварот.

Белая вужака Баі Нянг Зі жыла ў рацэ ля Вышчэрбленага Моста. Яна часта бачыла як берагам ракі шпацыраваў у задуменні адзін маладзён. Хлапец, нягледзячы на маладыя гады, лічыўся ў грамадзе аўтарытэтам. Ён зведаў моц лекавых раслін і ахвотна дапамагаў людзям. Калі Белая вужака бачыла яго ля вады, яна прымала выгляд прыгажуні і залётна прахаджвалася па Вышчэрбленым Мосце. Хутка маладыя захапіліся адно адным. У доказ пачуцця хлапец падарыў незнаёмцы белы парасон. Баі Нянг Зі прыняла падарунак, а гэта абазначала адно: яна згодна выйсці замуж за чалавека. Неўзабаве яны пажаніліся. Разам вырошчвалі лекавыя зёлкі, вялі аптэку, дапамагалі хворым. Год пасля шлюбу нарадзіўся ў іх сынок. Здавалася, усё ідзе як трэба... Але лёс не дазволіў, каб яны жылі ў пары...

www.globetrotter.pl

Аднойчы іх дом наведаў стары Фагай, манах з Залатога Узгорка. Ён патлумачыў хлапцу тайну:

— Твая жонка — вужака, яе прысутнасць на зямлі прарочыць няшчасце!

— Не веру я ў твае словы, — абурыўся малады аптэкар.

— Калі так, сам правер!

— Як гэта зрабіць?

— У свята Цмокавых лодак напаі сваю жонку віном з зеллем. Тады пабачыш, што атрымаецца...

Словы старога манаха разбурылі лад шчаслівай сямейкі. Хлапец знікаў на цэлы дзень у горах і не мог зразумець, што з ім адбываецца. Белая вужака таксама захварэла. Яна не дадумалася, што яе чакае выпрабаванне ў свята Цмокавых лодак. Дзяўчына выпіла пададзенае ёй віно і стала... вужакай!

Шакіраваны муж як стаяў, так і ўпаў нежывы.

У цэлай бядзе быў яшэ адзін выхад. Вужака, як боскае стварэнне, паляцела ў свет па ратунак. І сапраўды яна прынесла лек і выратавала шлюбнага. Але той напалохаўся яе моцы і, колькі сілы ў нагах, паімчаў перад сябе. Дарога сама прывяла яго ў манастыр у Залатых Узгорках. Стары манах усцешыўся. Ён схаваў уцекача і паставіў над ім страж. Доўгі час закаханая жонка дабівалася да варот вязніцы, але нічога так і не дабілася. Знеахвочаная, у слязах, адышла да берага сваёй ракі...

Пасля некалькіх дзён яе муж прыйшоў у сябе. Ён папрасіўся дамоў. Але стары манах не адпускаў яго...

— Хутчэй пакладу галаву, чым адпушчу цябе да Белай вужакі!

— У чым мы вінаватыя?! — прасіўся вязень.

— Сваім шлюбам вы прагневалі жыхароў краіны памерлых. Праз вас народ спасцігне засуха або землятрус. Вам немагчыма жыць разам, як муж з жонкай!

Але — як кажуць — каханне творыць цуды. Так і наш маладзён сам знайшоў спосаб, каб уцячы з манастыра. Ён адразу пабег да Вышчэрбленага Моста ў надзеі сустрэць сваю жоначку. І сапраўды, Белая вужака выйшла яму насустрач. Яны доўга стаялі ў абдымках і не прыкмецілі, што следам уцекача з'явіўся стары манах. Ён ведаў як разлучыць упартую пару...

З дапамогай заклёццяў і чараў стары манах памясціў дзяўчыну пад каменнай пагадай. І заявіў:

— Толькі тады будзеш свабоднай, калі хто зможа перамагчы гэтую пагаду.

Апошняя рэч здавалася немагчымай. Моц старога манаха палохала самых бавых і адважных ваяроў у цэлай правінцыі. Гэтае месца людзі абміналі шырокім кругам.

З часам памерлі стары манах і народны аптэкар. Але памяць пра заклятую пагаду не зацерлася...

Аднойчы дарослы ўжо сын Белай вужакі без слова накіраваўся да Вышчэрбленага Моста. Яго сэрца падказала як перамагчы заклятую пагаду. І гэтак адбылося, нават без лішняй натугі.

Калі яго маці зноў ажыла, яна развіталася з сынам і вярнулася „ў сваю шкуру". Значыць, зноў стала Белай вужакай і стала жыць у рацэ. Усё вярнулася на кругі свае...

Гісторыю нешчаслівых каханкаў народ паўтарае з пакалення ў пакаленне. Яна вучыць маладзёнаў, каб тыя шукалі шчасця сярод сваіх дзяўчат і ніколі не вязаліся шлюбам з незнаёмкай, асабліва такой, якая ведае тайны і ў якой няма бацькоў, радні, сваякоў.

**ЗОРКА**

# Музыка з кайфам

## Стас і Рома

Хаця гурт налічвае тры асобы, то не памяншаючы ролі бубнача, першую скрыпку іграюць два музыканты, якія на сцэне ў першым радку — гітарыст і басіст. Рома Жыгараў і Стас Мытнік ужо даўно зачаравалі публіку, асабліва гэтую жаночую, бо харызма не толькі на баку мастацтва, але, як прызнаюць дзяўчаты, на баку прыгажосці. Не буду распісвацца наконт мужчынскай прываблівасці музыкантаў, толькі пару радкоў прысвячу музыцы! Паявіўся новы альбом гурту пад загалоўкам „Не існуе".

Цяжка здагадацца пра чыё існаванне ідзе гаворка, а хутчэй пра чыю адсутнасць. Усё ж такі трэба сказаць адно: альбом выдатна пацвярджае, што гурт „Akute" ў добрай форме — як аўтары, так і людзі. Доказам гэтаму, безумоўна, з'яўляецца якасць кантакту артыстаў з публікай. Пабываць на іх канцэрце — вялікая прыемнасць, але калі адчуванне такое ж ад самога аглядання фотарэпартажу — гэта цудоўная з'ява. Я толькі аднойчы бачыла ўжывую гэты гурт у час „Басовішча", калі перамагалі ў конкурсе. Праўда, гэта не быў канцэрт, а толькі кароткая прэзентацыя, але ўжо тады адчувальнай была моц амбітных музыкаў.

Сілу сваёй творчасці „Akute" пацвярджае на новым альбоме. Хаця гэта яшчэ не той узровень, калі можна сказаць, што кожная песня выдатная. Але ж рэдка каму такое ўдаецца. Варта адзначыць, што апрача свайго стылю, гурт карыстаецца беларускай мовай і ў іх вуснах гучыць яна сапраўды прыемна. А ўсё таму, што гэта прываблівыя людзі, цікавыя, вынаходлівыя, а з такімі прыемна праводзіць час. Таму заахвочваю пакарыстацца інтэрнэтам і паслухаць „Не існуе", „Спі" ці „Кроў бы вада". Можа пасля альбома „Дзевачкі і космас" (2011) гэтая прадукцыя таксама стане неабходнай у спіску беларускіх альбомаў бягучага года?

http://www.lastfm.pl

**i_basovka@o2.pl**

# Вершы Віктара Шведа

## Парада

Аўтобус з турыстамі
Над прорвай гарыстаю.
Праваднік пытаецца:
— Ці турысты пужаюцца?

Як баіцеся дык рабіце
Тое, што наш вадзіцель.
— А што рабіць ён хоча?
— Ён закрывае вочы.

## Неспадзеўка

Настаўнік свой урок
Пачаў ад запытання:
— Кім хочаш быць сынок,
Калі дарослым станеш?

І быў, як з неба гром,
Адказ раптоўны Уладка:
— Хачу я быць ксяндзом,
Як мой родны татка.

# *Польска-беларуская крыжаванка № 19*

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 15:**

Шалі, хлеб, на, бот, ас, марка, шынка, бо, шышка, тан, Ян, шалупінне. Шлем, мыш, банк, норка, хатка, мі, баян, бяссонне.

Узнагароды, майкі з лагатыпам „Зоркі", выйгралі **Аляксандра Куптэль, Крыстына Леўша, Магда Бяляўская, Магдаліна Граматовіч, Караліна Каравай** з Нараўкі, **Магда Міхалевіч** з Бельска-Падляшскага, **Караліна Кадлубоўская** з Орлі, **Раксана Аврчук, Марцін Анішчук** з Арэшкава. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Smok | | | | | Dźwig | | | | |
| | Ciężarówka z Mińska / Jastrząb | | Dusz | Humorysta | | Przypadek | | Ręka / Nie | |
| | | | Gąska | | | | | | Kapitan |
| | | Wiąz / Uszko | | | | | | Bierz | |
| | | | Pióro | | Kreska | | Mag | | |
| Sto | | Prom | | | | | | | |
| | | Zboże / Akt | | | | | | Irka | |
| Borys / Jak | | | | | | Ar | | | |
| | Przecinek / Wieloryb | | | | | | Hit | | |
| | | | Tarpan | | | | | | |

№ 19 [06-05-2012]

1 ☞працяг *— Гэта вынік пагаднення між шасцю членамі камісіі.*

**Алег Латышонак**, старшыня БГТ:

*— Я здзіўлены меркаваннем ацэньваючага калектыву, што бібліятэка не мае значэння для ўзбуйнення культурнай прапановы горада. Здавалася б, што горад павінен ганарыцца, што мае найлепшую бібліятэку беларускіх выданняў у Польшчы, бо такіх фондаў не маюць ні Нацыянальная бібліятэка, ні Ягелонская. Калі хто ў Польшчы хоча пісаць пра Беларусь, то мусіць заглянуць да нас. Гэта таксама прамоцыя горада.*



Алег Латышонак

# У сметнік: этнаграфічныя майстар-класы

Конкурсная камісія апошнім размеркаваннем таксама не прызначыла датацыі Згуртаванню ў карысць дзяцей і моладзі вывучаючых беларускую мову АБ-БА. Тут хадайнічалі за падтрымку квотай 9 тысяч злотаў Летніх этнаграфічных майстар-класаў „Я нарадзіўся тут". У іх удзельнічае беластоцкая моладзь, якая свае ўмеласці выкарыстоўвае менавіта ў сталіцы Падляшша. Згуртаванне атрымала 55 балаў. Нягледзячы на тое, што ад конкурснай ацэнкі гэтага мерапрыемства са студзеня не памяняліся ўмовы запрэзентаваныя камісіі згуртаваннем, мерапрыемству зменшана ацэнку на шэсць балаў, значыць праект апынуўся „пад рыскай". Старшыня згуртавання **Барбара Пякарская** ў лісце ў Бюро культуры наконт красавіцкага рашэння напісала: „Наколькі нам вядома, стратэгія развіцця горада з сёлетняга студзеня не памянялася, не памянялася таксама колькасць удзельнікаў нашага праекта. Затое наш працэнтны ўласны ўклад узбуйніўся".

Анна Пецюль:

*— У катэгорыі „сугучнасць праекта са стратэгіяй горада" вялікае значэнне адводзім падтрымцы новага культурнага перыядычнага выдання ў Беластоку, тэатральным і танцавальным праектам, звяртаем увагу на культурную адукацыю і шматкультурнасць горада. Гэта менавіта вынікае са стратэгіі. Да таго ж, згодна закону, яны павінны быць рэалізаваны ў межах горада. У выпадку праекта Летнія этнаграфічныя майстар-класы можна было атрымаць датацыю ў першым сёлетнім конкурсе, калі не была выдзелена група „адукацыйныя праекты". Рэалізацыя гэтай задачы ў Супраслі і датычная яна цэлага рэгіёна, а не горада; праекты трэба здзяйсняць у межах Беластока.*

**Барбара Пякарская:**

*— У апісанні, якое было ў ходзе конкурсу, нідзе не з'явілася інфармацыя, што першым разам ацэньваецца адно, а другім — іншае. Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі [таксама прызначае датацыі нацыянальным меншасцям на культурныя мерапрыемствы — М. Х.] ці Падляшская маршалкоўская ўправа [таксама прызначае датацыі меншасным праектам — М. Х.] арганізуюць абучэнні як пісаць конкурсныя заяўкі і як разлічвацца. І ўсё яснае. Гарадская ўправа гэтага не робіць і мяняе крытэрыі. Атрымальнікі сродкаў пра гэта не ведаюць. Да таго ж, згодна тым крытэрыям, напрыклад, на дзесяць балаў могуць разлічваць толькі тыя арганізацыі, якія маюць стопрацэнтны ўласны ўклад, бо надзел балаў залежыць ад працэнтнага ўласнага ўкладу. Наш праект датычыць дзяцей, якія вучацца ў Беластоку. Раней за згоднасць са стратэгіяй горада мы атрымалі восем балаў, цяпер два. Грошы з Гарадской управы атрымліваюць беластоцкія дзеці, якія ездзяць на экскурсіі па ўсёй Польшчы, а нават у замежжа. Чаму тады нашы дзеці, якія вучацца ў Беластоку, і наша арганізацыя, якая таксама ў Беластоку, трактуюцца паіншаму? Нашу заяўку мы папраўлялі некалькі разоў. Мне здаецца, што гэтыя заяўкі разглядаліся несумленна або была звычайна злая воля. Конкурсная камісія ў выпадку майстар-класаў папраку-*



Барбара Пякарская

*нула за памылкі датычныя, м.інш. тэрміновасці разліку ранейшага конкурсу, жорстка абрэзваючы балы. Аднак з дакументаў вынікае, што папярэдні тэрмін разліку завяршыўся 31 студзеня г.г., а АБ-БА справаздачу ў Гарадскую ўправу здала 27 студзеня.*

# У сметнік: Аўдыёкніга Міхала Андрасюка

За 14 тысяч злотаў хадайнічаў Цэнтр грамадзянскай адукацыі Польшча-Беларусь на выданне дзвюх аўдыёкніжак Міхала Андрасюка. У гэтай версіі мелі паказацца „Вагон другога класа" і „Белы конь", адзначаны сёлетняй прэстыжнай літаратурнай прэміяй імя Веслава Казанэцкага прэзідэнта горада Беластока, чытаныя адным з вядомых у краіне акцёраў, што выводзіцца з Беластока. Гэты праект таксама не перавысіў магічнай „шасцідзесяткі".

Старшыня Цэнтра **Марцін Рэмбач:**

*— У цэлай сістэме ацэнкі не стае логікі. Ёсць, напрыклад, пункт пра ранейшую рэалізацыю праекта і яго разлік у дыяпазоне 1-10. І далі нам 10. Іншы пункт пра прадбачаны для рэалізацыі персанал праекта, таксама ў дыяпазоне 1-10; атрымалі мы 3. З'яўляемся малой арганізацыяй, якая ўсё выконвае сіламі таго самага персаналу. Калі не было да чаго прычапіцца, то паехалі па персанале.*

У пункце „супадзенне праекта са стратэгіяй горада" за гэты праект Цэнтр атрымаў толькі два балы.

Марцін Рэмбач:

*— Не разумею. То ж кнігі Міхала Андрасюка ў конкурсе імя Веслава Казанэцкага атрымалі высокую ацэнку ў мінулым і прэмію ў бягучым годзе. Наш праект прадбачваў таксама прамоцыю самой прэміі імя Казанэцкага.*

Анна Пецюль:

*— Мы свядомыя, што гэта цэнная і вартасная форма папулярызацыі чытальніцтва кніжак, але яшчэ зарана. Толькі ў мінулым годзе мы ўспамаглі папяровае выданне „Белага каня". Пачакайма год і гэта будзе вельмі цікавая прапанова.*

У бягучым конкурсным выпуску не прайшоў таксама праект „Прэзентацыя абрадавых калектываў" (мерапрыемства цыклічнае, якія наогул станоўча ацэньваюцца камісіяй), заяўлены Беларускім грамадска-культурным таварыствам. Не хапіла яму толькі трох балаў да магічных шасцідзесяці. Найменш, бо па пяць балаў атрымаў па крытэрыях „сугучнасць са стратэгіяй", „кола атрымальнікаў", „значэнне для прамоцыі горада".

Тут справа заключаецца ў тым, што толькі адно з гэтых мерапрыемстваў будзе адбывацца ў Беластоку, а апошнія ў рэгіёне. Пайшло пра 4 900 злотаў пры ўласным укладзе 34 400 зл. Далей, у кадравых фондах не было паказана, хто канкрэтна будзе здзяйсняць мерапрыемства [у гэтай катэгорыі праект БГКТ таксама атрымаў пяць балаў, хаця здаўна вядома, што Таварыства мае вельмі спраўны арганізацыйны персанал — М. Х.]. Пры нагодзе стала вядомым, што ў рамках гэтага праекта БГКТ плануе наладзіць у Беластоку не адно, але два мерапрыемствы, пры нагодзе карыстаючыся мастацкімі „фондамі" горада, а іншая імпрэза з прэзентацыяй абрадавых калектываў мае агульнапольскі абсяг.



Марцін Рэмбач

# Здзіўленне радных

Мы ўстанавілі, што ў Бюро культуры Гарадской управы за нарыхтоўку крытэрыяў у цікавячым нас конкурсе адказвае Павел Брулінскі, юрыст, які займаецца супрацоўніцтвам з няўрадавымі арганізацыямі. Ён — як падкрэсліла спадарыня Пецюль — з'яўляецца кансультантам у калектыве абмяркоўваючым конкурсныя заяўкі, а на практыцы адным з шасцёркі ацэньваючых заяўкі. Пакуль што ён у доўгім водпуску і не ўдалося нам з ім скантактавацца. У конкурснай камісіі, так у гэтым як і папярэднім выпуску, былі тыя самыя асобы: чатырох прадстаўнікоў прэзідэнта горада і дзве спадарыні з няўрадавых арганізацый: Малгажата Бараўска, старшыня праўлення Польскага згуртавання педагогаў і аніматараў „Клянза" і Іаланта Валангевіч з арганізацыі „Акадэмія плюс 50". Набор у конкурсную камісію асоб з няўрадавых арганізацый таксама адбываецца на конкурснай аснове (паводле закону дзве асобы).

*— Праблема заключаецца ў тым, што амаль усе арганізацыі падаюць свае заяўкі, а гэта аўтаматычна выключае іх з удзельніцтва ў працах камісіі. Маем вось праблему з вызначэннем кандыдатаў у камісію ад тых арганізацый, — тлумачыць загадчыца Бюро. — Была праблема, бо не было ахвотных. Канчаткова пра тое, хто ўвойдзе ў склад камісіі вырашае Бюро культуры і пан прэзідэнт. Пані Бараўска заявілася сама, а паню Валангевіч вызначыла згуртаванне няўрадавых арганізацый.*

— Пані Бараўска будзе ажно пасля 10 мая, — пачулі мы ў „Клянзе". Аднак удалося нам скантактавацца з ёю па тэлефоне. Вось што мы пачулі ў адказ на пытанне, ці згаджаецца з ацэнкай адкінутых камісіяй беларускіх праектаў:

*— Пасяджэнне было засакрэчанае. Не ведаю, ці магу на гэтую тэму гаварыць. Гэта калектыўнае рашэнне. Выказвацца пра гэта можа старшыня камісіі, значыць пані Пецюль.*

Выказаць сваю думку пра адхіленне беларускіх праектаў і больш агульна пра рашэнні конкурснай камісіі адносна „публічных задач у галіне культуры" мы папрасілі двух радных беластоцкай Гарадской рады, членаў Камісіі культуры. **Мацей Бернацкі** (Грамадзянская платформа; прэзідэнт Трускаляскі балатаваўся ад гэтай партыі на сваю пасаду), старшыня камісіі:

*— Не разумею гэтага, але рашэнне аб прызначэнні тых датацый з'яўляецца выключнай кампетэнцыяй прэзідэнта і ўсім радным забаронена нават удзельнічаць у працах гэтай камісіі, хаця раней, у папярэднім скліканні было інакш. Змяніўся адпаведны закон. Радныя не маюць у гэтай справе ніякіх рычагоў. Аднак, калі прыгляну́цца стратэгіі горада, то безумоўна шматкультурнасць з'яўляецца адным з нашых наймацнейшых козыраў.*

Член Камісіі культуры **Тамаш Мадрас** (Права і справядлівасць, апазіцыя ў Гарадской управе):

*— Мяркую, што спосаб прызначання гэтых датацый страціў празрыстасць. Пан прэзідэнт размеркаваў гэтыя датацыі па сваім капрызе і не пануе над тым, што робяць яго чыноўнікі. Царыць там хаос. Пра тыя беларускія мерапрыемствы, якія не атрымалі датацый, не магу сказаць злога слова. Паводле мяне беларуская бібліятэка ці фальклорныя майстар-класы павінны быць трактаваны вельмі сур'ёзна ў працэсе размеркавання сродкаў. Далей — сітуацыя з аўдыёкнігамі Міхала Андрасюка, хаця не ведаю пра кошты іх выдання, патрабуе па меншай меры высвятлення.*

У ліку заявак, якія будуць рэалізаваны ў рамках красавіцкага конкурсу, апынулася адна чыста беларуская пазіцыя: чарговы нумар перыядычнага выдання „Białoruskie Zeszyty Historyczne = Беларускі гістарычны зборнік", выдаванага Беларускім гістарычным таварыствам (датацыя 2 тысячы злотаў) ды два праваслаўныя мерапрыемствы: выданне „Анёлка", бясплатнага дадатка да штомесячніка „Przegląd Prawosławny" (3,5 тыс. зл.) ды міжнародная канферэнцыя Супрасльскай акадэміі „Мова нашай малітвы — даўней і сёння" (3,5 тыс зл.). З ліку іншых праектаў адабране камісіі атрымала шэсць прапанаваных каталіцкім асяроддзем (ацэньваным вельмі высока), такіх як „Мастацкая праграма суправаджаючая святкаванні дваццатай гадавіны стварэння Беластоцкай мітраполіі" (25 тыс. зл.), альбомная манаграфія пра беластоцкіх святых, рыхтаваная Беластоцкай архідыяцэзіяй (29 900 зл.) ці Мастацка-літургічныя майстар-класы Беластоцкай архідыяцэзіі (15 тыс. зл.) і V Дні каталіцкай культуры (7 тыс. зл.). Да таго датацыю з гэтага менавіта конкурснага пула атрымаў м.інш. музычны фестываль „Białystok Up To Date" — 215 тысяч злотаў!


Краявід з Азерскіх

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Тупанне каля Нетупы (3)

У Падліпках аб'явілася прароцтва, а прарокам, прарочыўшым паўстанне там касцёла, быў Людвік Радзевіч. І тут паўстае пытанне, адкуль яму такое прароцтва навеялася. Быў я ўжо крыху нясмела прыраўнаў рэлігійнасць да электрычнасці і цяпер хачу на гэту тэму выказацца больш адважна. Бо, як мне здаецца з назіранняў за зменамі рэлігійнага зараду тут, у нашым тутэйшым наваколлі, рэлігійнасць мясцовых канфесійных суб'ектаў характарызуецца свайго роду індукцыяй. Калі адна канфесійная суполка бярэцца масава ўзводзіць свае храмы, зараз жа суседняя суполка хапаецца за тое ж самае — гэты род індукцыі добранька відаць на прыкладзе нашага Беластока. Але, як быў пісаў мудры цар Саламон, усё новае — гэта крыху прызабытае старое.

Так вось — так мне грэшна здаецца — маецца справа і з сакральным будаўніцтвам. Калі ў Старой Грыбоўшчыне Ілья Клімовіч стаў узводзіць царкву, дык жа ў ягоных канфесійных суседзяў заіндукавалася такая ж самая думка — пабудаваць касцёл! Адбылося тое даволі ціха, без такога гучнага размаху, які выклікала дзейнасць Ілы Клімовіча. Не было ў Падліпках хмар пілігрымаў, якія б неслі туды мяшкі з золатам, таму і касцёл тамашні паўставаў даволі празаічна, можна нават сказаць — сярмяжна. І так ціхенька ён стаіць і зараз...

Размахнуўся я быў ісці ўглыб ранейшай Букштальскай, а цяпер Кнышынскай пушчы, у бок Сасновіка, па пазначанай на мапе дарозе. Але тая дарога ў Падліпках выйшла на загароджаны панадворак, на якім гаспадар калоў дровы. Паведаміў ён мяне, што ў Саснавік вядзе зусім іншая дарога. Гэтая змена намечанага маршруту збіла мяне крышку з панталыку і я стаў задумоўвацца пра супрацьлеглы напрамак, таксама лясны, але ў бок Крынак. Пакуль што прайшоў я побач парафіяльных могілак. Гэтыя могілкі паказваюць, што парафія ў Падліпках усё яшчэ на этапе станаўлення. З боку пушчы абгароджаны яны драўлянымі штыкетамі, але з боку жвіровай дарогі ўзводзіцца каменны мур. Камяні для бакавой агароджы ўжо звезены, але чакаюць там лепшага часу нясмела заводзячы сімбіёз з наступаючай расліннасцю.

Дайшоў я да дарогі з Крынак у напрамку Каралёвага Моста, якая зараз супадае з веласіпедным турмаршрутам, які атрымаў назву Напалеонаўскага шляху. Гэтай дарогай два стагоддзі таму слаўны Банапарт меў падавацца на Маскву; павярнуў у бок Масквы, значыць Крынак, і я. Жвіроўка пралягае цераз вёсачку Новая Свідзялаўка. Гэтая вёсачка наскрозь сучасная, тут ёсць усё: і хаты сезонныя, і хаты пастаяннага жыхарства, і хаты пустыя...

Далей „напалеонаўская" жвіроўка ставалася штораз менш жвіровай а больш грунтовай, і ўжо нават амаль зусім забытай падарожным народам. Падалося мне, што я недзе збіўся з напалеонаўскіх слядоў і таму радасна павярнуў у наезджаную дарогу, мяркуючы, што яна ў Крынкі. Неўзабаве з лесу паказалася нейкая вёска з крыху быццам знаёмай мне першай хатай. Ступіўшы крыху далей паказаўся мне і высокі прапелер ветравой электрастанцыі. Значыць выйшаў я не на Крынкі, толькі на Паўднёвы Востраў, дзе ў першай ад лесу хаце быў калісь рос і фармаваўся адзін з ніўскіх пачынальнікаў Міхась Хмялеўскі.

Ветравыя электрагенератары лічацца зараз перспектыўнай альтэрнатывай традыцыйным электрастанцыям, якія ўсяляк забруджваюць прыроднае асяроддзе. Але і яны не беззаганныя ў экалагічным ракурсе. Яны спараджаюць вібрацыі,


Каплічка ў Новай Свідзялаўцы

непрыемныя не толькі далікатнаму цяпер чалавеку, але і іншым арганізмам зямной паверхні. Каб не дакучаць насельнікам сушы, людзі задумалі стаўляць ветравыя генератары на марскіх водмелях, але і там яны могуць выклікаць пагрозы — марскім арганізмам. Вось амерыканцы былі думалі стаўляць такія марскія станцы для Нью-Йорка, але высвятляецца, што яны не дадуць спакою пражываючым недалёка вусця Гудзана кітам і акулам...

Ветравы электрагенератар, што высіцца каля Паўднёвага Вострава, здаецца такой пагрозы не прадстаўляць; пагрозы нявыгадных атачэнню вібрацый. Ягоны прапелер амаль не варушыўся, толькі пры падпамяркоўным ветры быў заўважны лёгкі зрух. Адзін абарот прапелера займаў ад пяці да дзесяці мінут...

У Паўднёвы Востраў я, аднак, не падаўся, а завярнуўся зноў у лес, у „напалеонаўскім" напрамку. Усходнія акраіны пушчы высякаюцца цяпер у шматлікіх дзялянках — шмат выцерабаў ад Плябанава, шмат і недалёка Паўднёвага Вострава. Лес там, як мне здалося, не надта стары, на што паказвалі простыя межавыя грады з камянёў, зарослыя цягам многіх гадоў рознай расліннасцю.

З „напалеонаўскай" дарогі заглянуў я ў вёску Азерскія, якой у Напалеонаў час яшчэ не было. Вось што ў 49-м нумары „Нівы" ад 1974 года пісаў пра гэтую вёсачку Мікола Гайдук: „Азерскія — вёсачка маладая, яна паўстала недзе пасля адмены прыгоннага права ў 1861 годзе. Іменна тады вёска Азраны Вялікія атрымала тут надатак і група сялян перасялілася сюды. Хоць вёсачка і не старая, але мае сваё багно, а ў ім — сваіх чарцей. Аднойчы падвыпіўшага Лапінскага нячысты вадзіў усю ноч па дрыгвястым Лузе. Раніцай жа людзі бачаць: сядзіць Лапінскі раздзеты да бялізны на камені пасярод Луга і крычыць на ўсё горла „Людкове, ратуйце!" У час апошняй вайны разгарэўся тут жорсткі бой паміж немцамі і наступаўшай часцю Савецкай Арміі. Загінуў савецкі разведчык і ўвесь разлік палявой пушкі. Вёска згарэла. (...) Нялёгкая справа ў Азерскіх таксама з вадою. Вось нават і летась навакольныя далінкі і лужкі ператварыліся ў абшырныя азёры, а ў глыбокіх на сорак кругоў калодзежах вады як на лякарства, ледзь паўвядра пачэрпнеш. Гмінныя і павятовыя ўлады абяцаюць,


Кармушка ў Новай Свідзялаўцы

што ў 1975 годзе будзе пабудаваны глыбінны калодзеж. Аднак дагэтуль няма ніякіх заўважальных прыкметаў, каб абяцанне ў вызначаным тэрміне было выканана. Гаспадаркі тут моцныя, людзі гадуюць многа жывёлы, і вада для іх — першая ўмова павышэння сельскагаспадарчай прадукцыі. З Азерскіх паходзіць Уладзімір Семяняка — бацька вядомага сучаснага беларускага кампазітара Юрыя Семянякі. Будучы кампазітар бываў тут часта ў 1940-41 гадах, калі займаўся па класу фартэпіяна ў тагачасным Беластоцкім музычальным вучылішчы. Блізкі родзіч бацькі Юрыя Семянякі Мікалай Семяняка паказваў мне нават захаваны падмурак дома дзеда аўтара оперы „Калючая ружа", музыкальнай камедыі „Рабінавая маніста", многіх інструментальных твораў і музыкі да п'ес і кінафільмаў, а таксама чароўных мелодый „Ой, шумяць лясы зялёныя", „Явар і каліна", „На зямлі маіх бацькоў" і дзесяткаў іншых папулярных беларускіх песень". Да напісанага Міколам Гайдуком пра Юрыя Семяняку варта яшчэ дадаць, што напісаў ён таксама песню „Ты мне вясною прыснілася", якую „расспявалі" слаўтыя „Песняры"; сам кампазітар жыў у 1925-1990 гадах.

А наконт самой вёсачкі таксама варта крыху больш дадаць, пра яе сучасны выгляд. А выгляд гэты вельмі прыгнятальны. Усе хаты ў вёсачцы старэнькія, некаторыя ў стадыі развалу. Спадзяваная Міколам Гайдуком студня ёсць, але выглядае яна як музейны рэлікт сівой даўніны. Акурат перад маім уваходам у яе напрамку набіраў там ваду мужчына сярэдніх гадоў. Толькі некалькі слоў замяніў ён са мною і без аглядкі панёс вёдры ў сваю хату, мабыць саромячыся такой „дзеравеншчыны". Водаправода, вядома, у Азерскіх няма, а маем жа XXI стагоддзе і знаходзімся ўжо ў перадавой часткі свету. Старыя студні ёсць, але толькі вонкавыя кругі іх. Душ тут менш за дзесяць, як успеў мне яшчэ сказаць мой неахвотны да размовы размоўца. Вёска абрастае з сухога боку бярэзінай. Аднак таго сухога там мала, з аднаго і другога боку брукаванай вясковай вуліцы ставы, у якіх поўна жаб.

І слова яшчэ наконт гэтай вёсачкі, дзеля звязання ў адно цытаваных мною вестак аўтарства Міколы Гайдука. Падалося мне, што надаткі, на якіх былі заснаваны Азерскія, паявіліся ў выніку высечкі мясцовага лесу дзеля здабыцця ялавай кары для крынскіх гарбарняў, якую перамолвалі ў Белагорцах. Не было б у Крынках жыдоў — не было б месца і на закладку Азерскіх. Гэтаксама, мабыць, не было б у Падліпках касцёла, калі б не было Ілы Клімовіча ў Старой Грыбоўшчыне...

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

# Пасхальная сустрэча ў Востраве



У пасхальны, праўдны аўторак 24 красавіка бацюшка Аляксандр і матушка Людміла Клімукі ў сваім прыходскім доме падрыхтавалі адметнае, міжнацыянальнае, міжканфесійнае, святочнае застолле. За вялікім, застаўленым ласункамі і віном сталом сабралася немалая кампанія дарослых і дзяцей. Апрача мясцовых прыхаджан прысутнічалі, між іншым, дырэкцыя шудзялаўскага дома культуры, крынскай бібліятэкі, прадстаўнікі Надлясніцтва Крынкі, уласнікі навакольных аграсядзіб і вядомыя рукадзельнікі. Былі запрошаныя крушынянскія татары, якія, на жаль, па розных прычынах не даехалі.

Супольнае святкаванне пачалося з наведання Успенскай царквы ў Востраве — пункту гонару айца Аляксандра, у якую ўклаў ён усё сваё сэрца. Госці з увагай слухалі аповедаў бацюшкі пра гісторыю і апошнія галоўныя падзеі ў жыцці прыхода. Затым усе падаліся ў прыхадскі дом. Адкрытая, гасцінная атмасфера, створаная сям'ёй Клімукоў, паспрыяла цёплым размовам і новым знаёмствам. Матушка Людміла, дасведчаная рэгентка і настаўніца, падзялілася з сабранымі сваімі ведамі аб праваслаўных велікодных звычаях. Пад яе кіраўніцтвам госці мелі таксама магчымасць вывучыць папулярныя велікодныя песні. Прагучалі, між іншым, старая, цудоўная кампазіцыя „Спіць Сіён" і беларускі пераклад вядомай, перш за ўсё ў каталіцкім асяроддзі, песні Карпінскага „Вясёлы нам дзень сёння настаў".

У якасці сюрпрызу, па запрашэнні матушкі Людмілы, перад сабранымі выступіў крынскі дуэт „Зараніца". Уступнае, даканцэртнае слова сказала дырэктар крынскай бібліятэкі Люцына Юркевіч. Яна прадставіла галоўныя напрамкі дзейнасці „Зараніцы", таксама ў кантэксце згуртавання „Тэрра Інкогніта" якога састаўной часткай з'яўляецца менавіта гэты дуэт. Падкрэсліла сваю ўдзячнасць за зберагання родных, культурных каштоўнасцей і традыцый.

У заранічным канцэрце прагучалі новенькія, прэм'ерныя песні проста з дзевятнаццацівечных зборнікаў „Pieśni białorusko-polskie z powiatu sokólskiego, gubernii grodzieńskiej" прафесара І. Бадуэна дэ Куртэнэ і „Lud białoruski na Rusi Litewskiej" Міхала Федароўскага.

У пераважнай большасці жаночая публіка з вялікім энтузіязмам прыняла песні пра замужнюю нядолю, мужычкоў-дурачкоў і карчомныя спробы палягчэння невясёлага лёсу. Смехам і жартам на тэму дамінацыі ў сям'і не было канца.

Завяршэннем мілага вечара было супольнае выкананне папулярных, народных песень з дапамогай спеўнікаў матушкі Людмілы.

Падобныя, напаўнефармальныя сустрэчы гэта цудоўны сродак на ўсякія формы нецалерантнасці і варожасці. Усім жадаю такіх амбасадараў згоды і яднання, якім без сумнення з'яўляецца востраўская сям'я Клімукоў.




## „Ніва" ў Седльцах

*Тыднёвік „Ніва" паступова пашырае круг сваіх чытачоў. Чытаюць яе не толькі на Беласточчыне, але і ў многіх іншых рэгіёнах Польшчы, дзе пражываюць беларусы і людзі, якія цікавяцца беларускай культурай. У апошні час падпісчыкам тыднёвіка беларусаў у Польшчы стала Гарадская публічная бібліятэка ў Седльцах. Дырэктар бібліятэкі Ядвіга Мадзяр сказала „Ніве", што „ў ліку 16 тысяч чытачоў ёсць многа зацікаўленых нашым рэгіёнам, а таксама функцыянаваннем нацыянальных меншасцей і беларускай культурай". Спецыяльна для іх бібліятэка падпісалася на газету. „Ніва" апынулася ў ліку 170 іншых перыядычных выданняў даступных у чытальнай зале. „На старонках „Нівы" паяўляюцца таксама інфармацыі з Седльцаў, таму мы вырашылі, што тыднёвік павінен быць у нашых фондах", — падкрэсліла дырэктар Ядвіга Мадзяр. Варта таксама адзначыць, што ў горадзе пражывае 70 грамадзян Беларусі. У мясцовым Прыродазнаўча-гуманітарным універсітэце вучацца і працуюць таксама беларусы. Менавіта таму газета сустрэлася з зацікаўленнем чытачоў. Трэба памятаць, што з 26 верасня 2000 года горадам-пабрацімам Седльцаў з'яўляецца Ваўкавыск. Наяўнасць штотыднёвіка „Ніва" ў бібліятэчных фондах гэта таксама сімвалічны ўнёсак у развіццё супрацоўніцтва і ўзаемаразумення паміж палякамі і беларусамі.*

Адам БОБРЫК




Адметнасцю апошняга часу для беларускага войска з'яўляецца тое, што яго калі і згадваюць, то часцей за ўсё падчас праўдзення якіх-небудзь вучэнняў разам з расійскай арміяй. Само па сабе беларускае войска нібыта настолькі непаўнавартаснае, што ўжо варта ствараць так званыя тэрытарыяльныя войскі кшталту народнага апалчэння. Менавіта пра такія тэрытарыяльныя вайсковыя фарміраванні заявіў летась прэзідэнт Лукашэнка, раздаўшы званні генерал-маёраў усім цывільным кіраўнікам абласных выканаўчых камітэтаў.

Згодна вестак ад тых, хто служыў ці служыць у сучасным беларускім войску, яму ўласцівы шматлікія недахопы, якое мела савецкае войска. У прыватнасці так званая „дзедаўшчына" — калі, адслужыўшыя пэўны тэрмін, салдаты пачынаюць здзекавацца над навабранцамі. І хоць сёння гэтая тэма зусім непапулярная ў беларускім грамадстве і аб ёй амаль нічога не чутна, ёсць асобы, што жадаюць змяніць сітуацыю ў арміі ў лепшы бок. Аб гэтым распавядаецца на сайце „Наша армія" — грамадскай кампаніі, што займаецца праблемамі войска. Месціцца ён у інтэрнэце па адрасе **www.armyby.info.**

Каляровая гама, што выбрана распрацоўшчыкамі сайта, нагадвае не столькі армію з яе паўсюдным колерам хакі, колькі вайну — там пераважаюць цёмна-шэры і бардовы колеры. Разам з тым, такі выбар вельмі нязвыклы і таму адразу прыцягвае ўвагу, „зайшоўшага" на сайт інтэрнэт-вандроўніка.

Рубрык на сайце не вельмі многа і ўсе выйсці на іх месцяцца ў правым верхнім вугле выяўлення. Старонка „Пра кампанію" падаецца адной з найбольш цікавых і інфармацыйных. «„Наша армія" — грамадзкая кампанія, да якой можа далучыцца кожны жадаючы. Гэта першая кампанія, якая будзе займацца праблемамі службы звычайных ваеннаслужачых. Наша мэта — рэальныя зьмены ў беларускім войску, якія будуць скіраваныя на паляпшэньне ўмоваў службы, зьмяншэньня тэрміну службы, большую адкрытасьць і празрыстасьць функцыянаваньня Узброеных сілаў», — абвяшчаюць свае мэты ўладальнікі партала.

На іх думку, умовы службы маладых людзей адрозніваюцца ад тых, што паказваюць па тэлебачанню. „Многія абмежаваньні не прадыктаваныя ніякімі неабходнасьцямі падтрымання баяздольнасьці і дысцыпліны і засталіся ў спадчыну ад савецкай вайсковай сыстэмы, — сцвярджаюць яны. — (...) Зараз „дзедаўшчыну", магчымасьць мыцца раз на тыдзень і адсутнасьць звальненьняў, забарону карыстацца тэлефонам называюць загартоўкай характара. Называюць, але паказваюць чыстыя казармы, новыя трэнажорныя залі і швэдзкія сталы. Тое, што ёсьць насамрэч часта нагадвае турму і прымусовыя працы, а не ратную службу і ганаровы абавязак".

Свае прапановы па рэфармаванні беларускага войска ідэйныя натхняльнікі сайта размясцілі ў рубрыцы „Нашы прапановы". Калі ж інтэрнэт-карыстальнікі маюць што распавесці аб вядомых ім парушэннях правоў ваеннаслужачых тэрміновай службы, то гэта можна зрабіць па кантактах, даных на старонцы „Паведамі нам".

Таксама невядомыя ўладальнікі сайта прапануюць разам прыкладаць намаганні дзеля рэфармавання беларускага войска, прынамсі, распаўсюджваючы розныя інфармацыйныя матэрыялы. Праўда, спампаваць гэтыя матэрыялы, як раяць актывісты кампаніі, не ўдасца — іх чамусьці няма на сайце.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

# БЕЛАРУСІ
# Скарбы

### „Песня пра зубра"

Перш чым напісаць пра Гусоўскага і ягоную „Песню", пастанавіў я сабе абавязкова прачытаць значны кавалак гэтай паэмы ў арыгінале. Мы, сучасныя гуманітарыі, лаціны, на жаль, не ведаем, але чытаць на гістафаку некалі навучыліся — дзякуй светлай памяці выкладчыцы Нікалаевай, якая, прымаючы ў нас, першакурснікаў, залік перад адыходам у савецкае войска, настойліва раіла прыхапіць з сабой туды антычныя афарызмы для паўтарэння. Праўда, крыху пазней выявілася, што ў войску дамінуе зусім іншая мова і іншыя „крылатыя" выразы, наўрад ці дапушчальныя ў літаратурнай мове. Але праз два гады, вярнуўшыся ва ўніверсітэт, Цыцэрона мы ўсё ж чыталі і нават спрабавалі нешта перакладаць. Ды вернемся, як гаворыцца, да нашых зуброў.

Сярэднявечны твор Міколы Гусоўскага на лацінскай мове яскрава сведчыць пра прыналежнасць Беларусі да еўрапейскай супольнасці. Гэтая паэма праходзілася ў беларускай школе яшчэ за савецкім часам. Слоўца „праходзілася" тут якраз дарэчы — што называецца прайшлі і не заўважылі. Тым больш, твор, як не круці, усё ж дарослы і сур'ёзны. Зрэшты, наўрад ці школьныя праграмы, якія ствараюцца сур'ёзнымі дзядзькамі і цёткамі, здольныя ўвогуле прышчапіць дзецям нешта сутнаснае. Даўняй мэтай Гусоўскага было адкрыць кантыненту невядомы ім загадкавы край. З сярэднявечча, аднак, у гэтым сэнсе змянілася няшмат. Еўрапейцы па-ранейшаму мала ведаюць пра Беларусь, а беларусы — пра сваю сярэднявечную гісторыю.

Пра аўтара знакамітага твора вядома не так шмат. Нават дакладнае месца нараджэння гуманіста Гусоўскага, які жыў на зломе пятнаццатага і шаснаццатага стагоддзяў, устанавіць даследнікам не ўдалося. Нібыта ён паходзіў з мясцовасці Уса (Усава), што даўно згубілася праз вякі на мапе цэнтральнай Беларусі. З назвы гэтай і паходзіць прозвішча, якое на тытуле „Песні..." пазначана як „Hvssoviani". Паводле сярэднявечнай пісьмовай крыніцы, Гусоўскі меў духоўны сан, жыў пераважна ў Польшчы і працаваў на розных канцылярскіх пасадах. Пабываўшы ў Рыме на бай быкоў і пабачыўшы відовішча, ён задаўся мэтай апісаць паляванне на зубра на роднай зямлі. Задума была бліскуча здзейснена вобразным і яркім словам, насычаным метафарамі і трапнымі эпітэтамі.

У вобразе зубра, як аднаго з асноўных сімвалаў нашай зямлі, Гусоўскі выявіў і ўсю Бацькаўшчыну. Уся паэма, поўная назва якой гучыць як „Песня пра постаць, дзікі нораў зубра і паляванне на яго", прасякнутая патрыятызмам і спасылкамі на гісторыю Вялікага Княства Літоўскага. Аўтар піша, што „свет даўніны вывучаў я па кнігах славянскіх", падкрэсліваючы грэцкую традыцыю на старабеларускіх землях. Гусоўскі падкрэслівае згубнасць братазабойчых войнаў, асабліва перад агульнай пагрозай турэцкай навалы — „Бог барані, калі нас перамогуць прышэльцы". Ён заклікае да яднання хрысціянскія народы Еўропы, падкрэсліваючы значнасць свайго краю: „Мы на пярэднім краі хрысціянства заставай". Гусоўскі крытыкуе міжусобныя звады і заганныя парадкі, пагардліва стаўленне ўладароў да простага люду, які пакуль не спазнаў спагады і асветы: „Мы — шчэ натоўп, грамада непісьменная, цемра". У канцы ж паэмы вершаваны склад аўтара набывае выразную форму малітвы да Багародзіцы і гучыць асабліва кранальна.

Прайшло цэлых шэсцьсот гадоў, а Гусоўская характарыстыка чалавечых парадкаў на зямлі дагэтуль актуальная: „Свет вар'яцее, і ўсе міратворцы на словах — гэта ваўкі пад ягнячым руном крамоўства".

Сапраўдныя паэты заўсёды былі прарокамі...

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА

# І ў Палічнай жывуць людзі...

Сёлета рушыў чацвёрты выпуск беларускіх фэстаў з цыкла „І там жывуць людзі". Арганізатарам імпрэзы з'яўляецца Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы. Мінулагодні трэці выпуск завяршыўся ў вёсцы Тапаркі Кляшчэлеўскай гміны. Чарговы пачаўся... у Палічнай гэтай жа гміны. І невыпадкова. Пахадайнічала за гэта Таварыства „Стакротка". На арганізаваны ў студзені г.г. „Вечар калядак" праўленне таварыства разам з Гарадской радай і Гмінным асяродкам культуры ў Кляшчэлях запрасілі дырэктара Музея Тамаша Ціханюка. Паколькі імпрэза завяршылася паспяхова (пры выдатнай падтрымцы вясковай супольнасці), мясцовыя арганізатары на чале з бурмістрам горада Ірэнай Негярэвіч папрасілі дырэктара саргазніваць у Палічнай беларускі фэст. Госць абяцаў пахадайнічаць у міністэрстве за фінансавыя сродкі. І стрымаў слова.

Субота, 28 красавіка. Стаяла цудоўнае сонечнае надвор'е. І хоць на вёсцы пачаўся працавіты час палявых работ, у Палічнай рыхтаваліся да свята. Побач шыкарна адрамантаванай святліцы прыватнікі ставілі латкі з цацкамі і смакоцямі для малеч, а працаўнікі Музея — краму з беларускай літаратурай і рукадзеллем. Пачатак імпрэзы назначаўся на 16 гадзін.

На паўгадзіны раней пачалі з'язджацца гурты: дзіцячы калектыў „Міктура" з Кляшчэляў, музычна-вакальная група „Метро" з Гайнаўкі, гурт „Нарва" і фолькавы калектыў „Арт-Пронар" з Нарвы ды трыо братоў Баронаў з Тапаркоў,. Падрыхтоўкай страў і бутэрбродаў заняліся члены Таварыства „Стакротка", забеспячэннем транспарту — дырэктар Гарадскога асяродка культуры „Гладышка" Лявон Алексяюк. Засталося чакаць публіку.

Першай з'явілася бабулька Леўчуковая, Хведарава жонка.

— І ты ўжо тут, — кідае ў мой бок з усмешкай (даўно сябрую з сужонствам Леўчукоў). І, прывітаўшыся, прыбаўляе: — З нагамі слабавата... Рашыла раней прыйсці і заняць месца...

Пакрысе пачалі сходзіцца гледачы. Прыкмячаю знаёмых пенсіянераў з Чаромхі-Станцыі і Кляшчэляў, жыхароў суседняга Курашава, а нават Пагулянкі і Белай Стражы.

Канцэрт пачаўся з пятнаццаціхвілінным спазненнем. З прывітальным словам выступілі бурмістр Ірэна Негярэвіч і дырэктар музея Тамаш Ціханюк.

— Трэці выпуск беларускіх фэстаў з цыкла „І там жывуць людзі" завяршалі мы ў Тапарках, — гаварыла бурмістр. — Чацвёрты пачынаем у Палічнай. Гэта заслуга старшыні Таварыства „Стакротка" (заадно мясцовай раднай) Аліны Зазулінскай і солтыс Альжбеты Каравай. Гэта яны з'яўляюцца важакамі і арганізатарамі культурных мерапрыемстваў у вёсцы. Плён грамадскай працы збірае вясковая супольнасць. Але не было б гэтага мерапрыемства без фінансавай падтрымкі Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі. Пахадайнічаў за гэта дырэктар Ціханюк. Дзякую Вам за гэта, пан Тамаш, ад шчырага сэрца дзякую...

Ганаровыя госці (справа налева): а. Павел Кучынскі з сямёй, дырэктар ГАК Лявон Алексяюк, бурмістр Ірэна Негярэвіч, дырэктар Музея Тамаш Ціханюк

— Выходзім насустрач патрабаванням, — заявіў дырэктар Тамаш Ціханюк. — Арганізуем культурныя мерапрыемствы там, дзе жыхары бачаць патрэбу падтрымкі нацыянальнай культуры. Жыхары Палічнай праявілі такую волю. І будзем даваць такую падтрымку ў будучыні. Запрашаю затым да супольнай забавы...

Палачку вядучых пераймаюць дзве сімпатычныя прыгажуні: Марыёля Герман і Паўліна Паўлючук. Абедзве пражываюць у Гайнаўцы. Вучацца ў варшаўскіх вышэйшых установах. Як сказала ў размове Паўліна Паўлючук, у летнім сезоне працуюць яны ў Беларускім музеі вядучымі беларускіх фэстаў.

— Гэта заслуга дырэктара Ціханюка, які заключыў з намі часовую дамову на працу, — канстатавала субяседніца. — Дзякуй яму за гэта, бо кожны грош студэнту спатрэбіцца.

Варта прытым адзначыць, што абедзве дзяўчыны ад трох гадоў спяваюць з гуртом „Арт-Пронар" і забаўляюць публіку не толькі галасамі, але і прыгажосцю. Затым вядучыя прывіталі гасцей, а былі сярод іх бурмістр Ірэна Негярэвіч, дырэктар Музея беларускай культуры ў Гайнаўцы Тамаш Ціханюк, настаяцель прыхода ў Вэрстоку а. Павел Кучынскі з матушкай, старшыня Радыё „Рацыя" і галоўны рэдактар „Нівы" Яўген Вапа, журналісты „Польскага тэлебачання" Мікола Ваўранюк і Радыё „Рацыя" Наталля Герасімюк, радная Аліна Зазулінская і яе сяброўка з вёскі Залешаны Галіна Гераз, солтыс Альжбета Каравай.

Першым на сцэну быў выкліканы калектыў „Міктура" з Кляшчэляў. У выкананні дзетак прагучалі некалькі польскіх і беларускіх песень. Публіка ўзнагародзіла іх гучнымі воплескамі. Затым пачаўся канцэрт беларускай музыкі і песні. Чаргова выступалі гурт „Метро", музычна-вакальны калектыў „Нарва" з Нарвы, а завяршыў мастацкую частку фолькавы калектыў „Арт-Пронар". Канцэрт доўжыўся больш за тры гадзіны. Немагчыма запісаць у адным допісе так багаты і разнародны рэпертуар. Усе выканаўцы заваражылі публіку бадзёрай музыкай і харошымі песнямі, нашымі, беларускімі. Была „Синеглазая", песні пра цыганоў і пра каханне, „Белая каліна" і „Прымакі" ў выкананні гурту „Метро", „Беларусачка", „Вяне рута", „Только з табою", „Детство" і „Грымата" ў выкананні квартэта „Нарва". Варта адзначыць, што публіка двойчы не адпускала гэтага апошняга са сцэны. Вымушаны яны былі па біс паўтарыць песню „Вяне рута".

Гітом аказаўся выступ „Арт-Пронару". Вядучыя, пераапранўўшыся ў народныя ўборы, выступілі як вакалісткі. І панеслася па зале чароўная песня „Чараўніцы". Пасля былі „Маміна сарочка", „Іграй музыка, іграй", „Чырвоны мак", „Святая ноч". Музыканты бадзёра ігралі. Ногі самі рваліся да танца. Не стрымалася палічанская салтысова і, схапіўшы стаячага з боку мужчыну, закружылася перад сцэнай у танцы. Услед рушылі іншыя. Бурмістрова „падбірала" жанчын з публікі і ўключала ў танцавальны карагод. У тым часе кіраўнік гурту Янка Снарскі заявіў, што будзе выкананы асаблівы нумар — песня „Сяло", напісаная ўдзельніцай гурту Марыёляй Герман. Задушэўная мелодыя і майстэрскае выкананне заваражылі публіку, якая не хацела адпусціць калектыў са сцэны. Тры разы бісавалі. Затым пачаўся „канцэрт па заяўках". Першая заяўка паступіла ад бурмістр Ірэны Негярэвіч на песню „Белая Русь", ад салтысовай — на „Белые розы". Пасля паступалі чарговые заявы на „Каліну", „За гарамі вёсачка", на песню пра „Аню" (прысвечаную ўсім прысутным Аням) ці „Сяло". Завяршаючым гітом ад членаў гурту быў польскі шлягер „Дай мне тую ноч". Зала спявала разам з выканаўцамі. *(заканчэнне будзе)*

# Адгаданка

## Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — пагаворку.

1. вайсковае тактычнае злучэнне з некалькіх палкоў = 2 _ 9 _ 15 _ 30 _ 3 _ 13 _ 14 _;
2. шостая літара алфавіту = 6 _;
3. мова еўрапейскіх яўрэяў = 19 _ 20 _ 18 _ 17 _;
4. вырас т з касцявога рэчыва на чэрапе некаторых жывёл = 10 _ 11 _ 23 _;
5. левы прыток Табола на расійска-казахскай граніцы = 16 _ 7 _;
6. пышнае сцэнічнае відовішча = 8 _ 21 _ 22 _;
7. да Кіева давядзе = 26 _ 27 _ 28 _ 29 _;
8. краіна якутаў = 4 _ 12 _ 1 _ 5 _ 24 _ 25 _.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 1 |
| | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| | | | 15 | 16 | 17 | 18 |
| | | | | | | 19 |
| | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |
| | | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 |

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 14 нумара**

Брага, яхта, Бядуля, спорт, паз, Ясы, пеон, Баку, ягня, Хомс, Ржэў, Аргенціна, базар.

РАШЭННЕ:

**Хто пазбягае спакусы, пазбягае грахоў.**

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока і **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх.

# 06.05 — 12.05

**(22.03. — 20.04.)** Нечаканыя здарэнні могуць зрабіць тваё жыццё захаплялыным, хоць будзеш найбольш цаніць спакой і самаўпэўненасць. Будзь пільным — можаш здабыць штосьці незвычайнае. З 11.05. плануй далёкае падарожжа.

**(21.04. — 21.05.)** Вялікая сімпатыя людзей. Для кар'еры не варта так сябе аддаваць. У пачуццях хопіць рамантызму і шалёных прыгод. За фінансы (амаль) перастанеш турбавацца.

**(22.05. — 22.06.)** Нічога цябе не заспее. Засяродзішся на хатніх справах. Не разлічвай на фантастычны прыток грошай. Кіруйся інтуіцыяй. Кантралюй здароўе і вагу.

**(23.06. — 23.07.)** Шчасце ў каханні. Не будзе цябе цікавіць сапернітва на працы. У пачуццях ніхто перад табою не ўстаіць. Не думай пра рамонт, а пра радню. 6 мая могуць апасці табе шоры з вачэй.

**(24.07. — 23.08.)** З 11 мая будзеш на піку ўдач. Шмат часу прысвяціш сябрам. Будзеш рваць какосы ў фінансах! У здароўі не будзеш над сабою расчульвацца.

**(24.08. — 23.09.)** Не будзе цікавіць цябе руцінная, спакойная праца. Трэба табе больш руху. У пачуццях чакае цябе спроба сіл. Не мусіш турбавацца заробкамі.

**(24.09. — 23.10.)** Будзь больш крытычным і патрабавальным. Паміж табою і найбліжэйшымі будзе проста іскрыцца. Вялікія ўдачы ў інтарэсах. На працы будзь чуйным. Можаш папаўнець, трымай дыету.

**(24.10. — 22.11.)** Задбай аб добрыя адносіны на працы. Аб піку ў здароўі можаш цяпер толькі марыць. Здабудзеш кожнага, хто пападзе табе ў вока. Зоркі спрыяюць у зарабленні грошай.

**(23.11. — 22.12.)** Адкрый сэрца на новае каханне. Шчасце перапляляцца будзе з горшымі хвілінамі. Засяродзься і прыкладзіся да сваіх абавязкаў. Дасканалы настрой. З 11.05. не бойся рызыкаваць.

**(23.12. — 20.01.)** У прафесійных розыгрышах будзеш непераўзыдзены. Не занядбоўвай візітаў у лекараў і абследаванняў. Спакушаць цябе будзе ў пачуццях пачынаць усё нанова. Грошай хопіць і на распусту.

**(21.01. — 19.02.)** Не будуць спакушаць цябе флірты і раманы. Дома будзе шмат што адбывацца. На тваім рахунку штосьці ўрэшце дрыгне! У кар'еры будзеш змагацца самотна. Можаш адчуць стому.

**Рыбы (20.02. — 21.03.)** Амбіцыя гэта цяпер тваё другое імя! Будзеш актыўны, момантамі аж залішне. Наступіць пералом у сардэчных справах. Твая энергія і энтузіязм перададуцца іншым. Фінансы цяпер для цябе не будуць праблемай.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня:** Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet:** *http://niva.iig.pl/*
**E-mail:** *redakcja@niva.iig.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня:** „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Termin przyjmowania wpłat do 5-go dnia każdego miesiąca poprzedzającego okres rozpoczęcia prenumeraty.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „RUCH" i „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Cena prenumeraty kwartalnej: I kwartał — 32,5 zł., II kwartał — 32,5 zł., III kwartał — 35,0 zł., IV kwartał — 32,5 zł., rocznej — 132,5 zł.
**Prenumerata z wysyłką za granicę**
Wpłaty przyjmuje „RUCH" S.A. ul. Annopol 17a, 03-236 Warszawa; telefony: +48(22) 69-36-775, +48(22) 69-36-782, +48(22) 69-36-718; www.ruch.pol.pl
**Prenumerata w redakcji**
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2012 roku — 53.
**Przesyłka zwykła:** Cena 1 egz. wraz z wysyłką w kraju wynosi 4,2 zł.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 300 egz.

Тэкст і фота Уладзіміра ХІЛЬМАНОВІЧА

# Пілігрымка ў сучаснае і гісторыю Святой Зямлі (4)

У нашым паломніцтве па Ізраілі настала пара расказаць пра некаторыя асаблівасці гаспадарчага і прыроднага ўладкавання гэтай краіны. Улічваючы геапалітычную сітуацыю, эканамічныя рэсурсы, прыродныя асаблівасці, дзяржава проста змушана надзвычай рацыянальна выкарыстоўваць падоранае Богам, выпакутаванае стагоддзямі ўсім народам, здабытае і ўсталяванае папярэднім пакаленнем. Лішне казаць, што Ізраіль жыве ў асаблівых умовах чакання і рыхтавання да вайны. Гэта стала паўсядзённай звыкласцю і знешне амаль не адчуваецца. Людзі, занятыя мірнай стваральнай працай, шануюць сваю дзяржаву і яе шматлікія заваёвы.

## Ад бедуінаў — да кібуцаў

У краіне асаблівую ўвагу надаюць харчаванню. Амаль усё Ізраіль вырошчвае і прадукуе сам — гародніну, садавіну, малочныя і мясныя вырабы. Клімат дазваляе здымаць па два-тры ўраджаі ў год. Абапал дарог паміж гарадамі можна ўбачыць плантацыі мандарынаў, авакада, манга. З цытрусавых і садовых не растуць тут толькі какосавыя пальмы, не вельмі плоданосяць таксама ківі, але для сябе ў прыватных гаспадарках іх садзяць. Паводле сцвярджэнняў адмыслоўцаў, мясцовая гародніна і садавіна змяшчаюць мінімум нітратаў і іншай „хіміі”. У сельскай гаспадарцы прыдумана ўнікальная сістэма кропельнага арашэння: да кожнага парастка падведзены адмысловы вадавод, які праз кнопку камп'ютара пырскае ў адпаведны час у патрэбнае месца. Усё вельмі рацыянальна і прадумана. Дарожныя з акна ландшафты мяняюцца надзвычай хутка. Вось пясчаныя даліны з вельмі рэдкай расліннасцю, альбо ўвогуле без яе. Тут можна пабачыць авечак, якія нешта яшчэ знаходзяць ускубсці (наш жывёлавод-гаспадар плакаў бы, пабачыўшы гэтае відовішча і шкадуючы жывёліну). Яшчэ большы жаль выклікаюць хаціны бедуінаў, зробленыя з усялякага ламачча, нейкай цыраты, магчыма гліны. Вельмі цяжка ўявіць, як у такіх будах, нават не буданах, можна пераначаваць хоць раз. А людзі жывуць тут дзесяцігоддзямі і не хочуць перабірацца ў іншыя месцы. Пустыня праз пару кіламетраў можа змяніцца ўжо ўрадлівай, старанна апрацаванай зямлёй, а бліжэй да Іардана трапляюцца сапраўдныя зялёныя лагчыны, дзе можна ўбачыць пастаральныя карцінкі з каровамі і авечкамі. Але сапраўдных лугоў тут няма. У кароў пярэднія ногі карацейшыя, што звязана з прыроднай гарыстай мясцовасцю. Малака шмат, але піць яго, падаіўшы карову, без апрацоўкі не рэкамендуецца. Навакол палі з жоўтай гарчыцай. Амаль кожная трава, якая тут расце, прыдатная ў ежу. Гаспадарчая ж разнастайнасць надзвычайная — з аднаго боку можна пабачыць палетак пшаніцы, а праз дарогу — вялікую пальмавую плантацыю, эўкаліптавыя гаі змяняюць азёры для гадоўлі рыбы — пераважна карпаў. Вельмі шмат бананавых плантацый, праз пару гадоў іх высякаюць зусім, прыблізна так, як нашы кукурузныя палі.

У асобных месцах яшчэ захаваліся кібуцы — своеасаблівыя ізраільскія калгасныя гаспадаркі, створаныя, аднак, па адваротным прынцыпе. Яны існуюць ужо больш ста гадоў. Калі савецкі калгас усё забіраў у чалавека, то мэтай кібуца, дзе ўсё таксама калектыўнае, але насамрэч агульнае, было забеспячэнне чалавека ўсім патрэбным. Людзі ў гэтых камунах не маюць ні асабістай маёмасці, ні грошай, але могуць паўнавартасна жыць. Кібуцы як камуны сталі знікаць дзесьці на 80-х гадах ужо мінулага стагоддзя, але дагэтуль некаторыя захаваліся: супольнасці з дармовымі сталоўкамі, агульным транспартам і адной вялікай працавітай сям'ёй. Захаваліся пераважна вялікія і заможныя кібуцы, гэткія „калгасы-мільянеры”, якія кіруюцца прынцыпамі самакіравання.

## Іарданіт — месца асаблівай гармоніі

Іарданіт — аб'ект асаблівага паломніцтва, месца, дзе Ісус Хрыстос прыняў хрост ад Яна Прадцечы. Зараз сюды прыязджаюць пілігрымы з усяго свету, каб прайсці сімвалічны абрад у адпаведнай купальні. У дзень нашага прыезду было прахалодна, але на шчасце выглянула сонейка і не ўвайсці ў воды гэтай святой для кожнага хрысціяніна ракі было б зусім недаравальна. У ваду можна ўвайсці толькі ў адмысловай доўгай кашулі, што каштуе нятанна. Набыць кашулю на памяць можна за 25 долараў, а за дзесяць „зялёных адзінак” можна ўзяць такое ўбранне і рушнік у пазычальні. Затое атрымліваеш спецыяльны сертыфікат, які сведчыць, што ты прайшоў абмывальны абрад.

Іарданіт — месца асаблівай гармоніі чалавека з прыродай, з навакольным светам. Тут птушкі і рыбы зусім не баяцца чалавека. Уваходзячы ў ваду (трэба сказаць, што пасля дажджу асаблівa мутную) у адмыслова адгароджаным для гэтага месцы, пад самымі нагамі я ўгледзеў вялікага сома, які лянiва шавяліў вусамі і зусім не збіраўся ўцякаць. Паўсюль галубы, як сімвал біблейскай гісторыі, а за адмысловай сеткай, якая аддзяляе прыбярэжную купальню ад рэчышча ракі плюхаюцца спрытныя звяркі. Спярша мне падалося, што гэта выдры, але неўзабаве выявілася, што нутрыі. Гісторыя іх з'яўлення тут асабліва пікантная. Нейкі аргенцінскі фермер, у якога нібыта някепска ішлі справы па вырошчванні гэтых звяркоў на радзіме, пастанавіў развіць свой бізнэс. Аднак на „зямлі абяцанай” клімат стаўся непрыдатны для поўсці нутрый, у выніку чаго іх шкуркі сталіся незапатрабаванымі. Бізнес-план недарэкі-прадпрымальніка ляснуўся, а звяркоў ён выпусціў у жывую прыроду. Трэба сказаць, што ў Ізраілі асабліва дбайна ставяцца да прыроды і яе прадстаўнікоў, забіваць жывёлу без патрэбы нельга, а ламаць галінкі ці зрываць кветкі лічыцца дурным тонам. Палявання і рыбалкі тут няма зусім. Аднак у данай гісторыі наступствы ад такой „міласэрнасці” выйшлі негатыўныя: прыезджыя „канадскія бабры” знішчылі рэдкія расліны, а таксама паелі і некаторых прадстаўнікоў мясцовай карэннай фаўны. Цяпер гэтыя нутрыі гаспадараць у Іардане, пацяшаючы альбо палохаючы паломнікаў.

Групы ў Іарданіт прыбываюць розныя, часам вельмі каларытныя. Пакуль я сачыў за нутрыямі, мой сябра захапляўся мілагучнымі рэлігійнымі спевамі італьянскіх пілігрымаў. Тут, на Іардане, гармонія чалавека з прыродай нейкая сапраўды зусім асаблівая і незвычайная. Усё гэта — водгулле даўняй біблейскай таямніцы. Нашы ўкраінскія спадарожнікі падарылі мне фотаздымак сваёй знаёмай з берагоў Іардана — на ім дакументальна зафіксаванае неверагоднае залацістае свячэнне ў выглядзе голуба.

## Дары і сюрпрызы Мёртвага мора

У адзін з дзён нашага падарожжа мы ехалі на Мёртвае мора ў адмыслова абсталяванае месца з сучасным SPA і іншымі выгодамі. Аднак, тут нас чакала сапраўдная прыгода. Пасля дажджу з карычневых злавесных гор абрынуўся сапраўдны воды паток, які сур'ёзна размыў дарогу. У адным з месцаў, за кіламетраў дзесяць ад зоны адпачынку шлях перагарадзіў нібыта невялікі ручай, які спыніў дзесяткі аўтобусаў і аўтамабіляў. Пераязджаць гэты ўчастак ніхто не адважваўся, таму што транспартны сродак мог сур'ёзна правaліцца, тым больш не было пэўнасці і наперадзе. У выніку, пасля пару гадзін чакання, бальшыня аўтобусаў з экскурсантамі скіравалася на амаль дзікі пляж з відам на бераг суседняй Іарданіі, што было куды цікавейшым.

Мёртвае мора — унікальнае месца на ўсёй зямлі. Менавіта ў яго наваколлі былі гістарычныя гарады Садом і Гамора, знішчаныя Усявышнім за страшныя грахі іх насельнікаў. Мора гэтае, а па-сутнасці вялізнае возера, цяпер — бясссёкавае, ровень вады ў ім 400 метраў ніжэй роўню мора. Гэты ўнікальны вадаём называюць таксама Садомскім альбо Асфальтавым морам. Зразумела ўжо па назве, што тут не жыве ні рыба, ні іншыя арганізмы.

Канцэнтрацыя солі ў гэтым вадаёме такая, што можна легчы на ваду і спакойна ляжаць. Аднак, тым, хто кепска плавае, даводзіцца цяжэй, чым спрактыкаваным. У гэтай вадзе, нават на невялікай глыбіні, практычна немагчыма ўстаць на ногі: вада перакульвае чалавека назад. Калі ж паспрабаваць перавярнуцца, то азадак усплывае як паплавок, а галавой ты плюхаешся ў едкі „расол” — задавальненне для рэдкіх мазахістаў, бо калі ў вочы трапляе нават некалькі кропель, пячэ вельмі моцна. Выйшаўшы з вады, ты неўзабаве робішся зусім белым — соль хутка высыхае на скуры і ажно сцягвае яе. У самым вадаёме вялікія кавалкі, амаль камяні солі, глей і гразь, якія лічацца лекавымі. Нездарма касметыка Мёртвага мора з'яўляецца адной з візітовак Ізраіля. Прадаецца тут яна амаль паўсюдна і мае вялікі попыт турыстаў.

У гэты ж дзень нам пашчасціла наведаць у наваколлі Мёртвага мора мясцовасць Кумран. Сёння гэта цэлы археалагічна-турыстычны комплекс. Тут былі знойдзены ўнікальныя скруткі — найбольш старажытныя ў гісторыі чалавецтва пісьмовыя дакументы. Усяго гэтых манускрыптаў знайшлі каля 600. Яны выразна паказалі, што старажытная іудзейская секта ясеяў яшчэ ў II стагоддзі да нараджэння Хрыстова спавядала прынцыпы, вельмі падобныя на евангельскія запаветы. Цікава, што першы скрутак у Кумране ў 1947 годзе знайшоў звычайны хлопчык, бедуін. Некалі, яшчэ студэнтам, мне давялося пісаць адну з курсавых прац на тэму кумранскіх скруткаў. Зараз жа пашчасціла прайсціся па гэтай мясціне. У час вандровак і паломніцтваў гісторыя сапраўды набліжаецца да нас..


Пустыня ля Кумрана



З Рацыяй на Іардане


Панарама Мёртвага мора

ISSN 0546-1960